І. І. Паўлоўскі

# Беларуская мова

Падручнік для 4 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 1

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2013

УДК 811.161.3(075.2=161.3)
ББК 81.2Беи-922
П21

Р э ц э н з е н т
метадычнае аб’яднанне настаўнікаў пачатковых класаў дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя школа № 60 г. Мінска» (настаўнік пачатковых класаў вышэйшай катэгорыі *Ю. А. Храмцэвіч*)

**Умоўныя абазначэнні:**

 — дамашняе заданне;

 — правілы, азначэнні, памяткі;

 — дадатковае заданне да практыкавання;

 — значэнне слова тлумачыцца ў слоўніку падручніка;

 — заданне па развіцці мовы вучняў

**ISBN 978-985-559-174-1 (ч. 1)**
**ISBN 978-985-559-173-4**

# ПАЎТАРЭННЕ

**1.** Выразна прачытайце верш. Якімі словамі перадаецца радасны настрой вучняў?



Заціх у лузе звон пчаліны,
замоўк у лесе хор птушыны —
мінула летняя пара.

І першым ранкам вераснёвым
спяшаецца з настроем новым
у Краіну ведаў дзетвара.

Настрой ва ўсіх цудоўны гэткі:
у руках дзяцей — жывыя кветкі,
усмешак промні ў вачах.

Сышліся класныя сямейкі
на ўрачыстую лінейку.
Званочак весела гучыць.

*Краіна ведаў, адчыняйся,*
*ніколі, шчасце, не канчайся —*
*вучыцца шчасце і вучыць!*

*В. Жуковіч*

Разгледзьце малюнак. Раскажыце пра першы дзень у школе пасля летніх канікулаў.

- Запішыце апошнія радкі верша па памяці.

**2.** Прачытайце. У якіх выпадках людзям патрэбна мова?

Мова дапамагае людзям жыць, працаваць, разумець адзін аднаго. Яна ўзнікла ў сумеснай дзейнасці людзей і служыць сродкам зносін. Пры дапамозе мовы людзі абменьваюцца думкамі, выказваюць пажаданні, перадаюць інфармацыю.

Асаблівае значэнне мае мова ў навучанні. Слова настаўніка, кніга — гэта крыніца ведаў. Мова адкрывае свет народнай думкі, таямніцы рэчаіснасці, культуры народа.

Разгледзьце малюнкі. Як людзі набываюць веды? Складзіце і запішыце сказы па малюнках.




**Успомніце!**

- Для чаго людзям патрэбна мова?
- Калі карыстаюцца вуснай мовай, а калі — пісьмовай?

**3.** Прачытайце тэкст. Пра які скарб душы чалавека гаворыцца ў тэксце? Вызначце тэму і асноўную думку тэксту.

У кожнага народа ёсць свае вечныя скарбы* душы. Для нас адным з такіх скарбаў з'яўляецца беларуская мова. Любоў да роднай мовы нараджаецца ў душы з маленства. Гэты скарб застаецца на ўсё жыццё. *Паводле Цёткі*

- Спішыце. Да слова *беларуская* падбярыце аднакаранёвыя. Запішыце і абазначце корань.
- У трэцім сказе падкрэсліце дзейнік і выказнік.

**4.** Прачытайце. У якіх сказах гаворыцца пра вусную мову, а ў якіх — пра пісьмовую?

1. Хто шмат чытае, той шмат і ведае.
2. Слухай многа, а гавары мала.
3. Трэба ведаць, дзе сказаць, а дзе памаўчаць.
4. Не ўсё гавары, што ведаеш, а ведай, што гаворыш.
5. Пісьмо — гэта размова з тым, каго не бачыш.

- Спішыце і падкрэсліце словы з супрацьлеглым значэннем.
- Знайдзіце словы з коранем ***-вед-***. Прыдумайце свае словы з такім жа коранем.

**Успомніце!**

- Калі людзі карыстаюцца вуснай мовай?
- Калі нам патрэбна пісьмовая мова?

**5.** Прачытайце назвы літар беларускага алфавіта. Для чаго патрэбна ведаць літары алфавіта?

| | |
|---|---|
| А а *(а)* | П п *(пэ)* |
| Б б *(бэ)* | Р р *(эр)* |
| В в *(вэ)* | С с *(эс)* |
| Г г *(гэ)* | Т т *(тэ)* |
| Д д *(дэ)* | У у *(у)* |
| Е е *(е)* | ў *(у нескладовае)* |
| Ё ё *(ё)* | Ф ф *(эф)* |
| Ж ж *(жэ)* | Х х *(ха)* |
| З з *(зэ)* | Ц ц *(цэ)* |
| і *(і)* | Ч ч *(чэ)* |
| й *(і нескладовае)* | Ш ш *(ша)* |
| К к *(ка)* | Ы ы *(ы)* |
| Л л *(эл)* | ь *(мяккі знак)* |
| М м *(эм)* | Э э *(э)* |
| Н н *(эн)* | Ю ю *(ю)* |
| О о *(о)* | Я я *(я)* |

- Якія літары абазначаюць галосныя гукі? Якія гукі абазначаюць літары ***е, ё, ю, я***?
- Якая літара не абазначае гука?
- Якімі літарамі абазначаецца мяккасць зычных?

**6.** Прачытайце. Выпішыце назвы гарадоў, сёл, рэк і азёр у алфавітным парадку.

Яны даспадобы мне, хай і старыя,
не толькі ў гучанні хвалюючы змест.
Як многа гавораць мне назвы такія —
Мінск,
Пінск,
Брэст.
Калі паразважыш, няцяжка дазнацца,
бо сведчаць на ўсю неабсяжную шыр,
што продкі любілі спакойную працу, —
Шклоў,
Клецк,
Мір.
А вораг находзіў — бязлітасна білі,
трываць не хацелі абразы* і слёз
і разам з Бярозаю катаў тапілі —
Пціч,
Друць,
Сож.
Бацькі і дзяды нашу мову стваралі,
каб звонка звінела, была, як агонь.
У сёлаў імёны, як гукі цымбалаў, —
Блонь,
Струнь,
Звонь.

*П. Броўка*

- Зрабіце гука-літарны разбор тых слоў, якія вы запісалі.



**7.** Прачытайце верш. Запішыце, устаўляючы ў словы прапушчаныя літары.

Мова про..каў нашых і нашча..каў,
шэпт дубровы і ***пчаліны*** звон, —
нам цябе ласкава і ашчадна*
спазнаваць ажно да скону дзён.

*Г. Бураўкін*

- Назавіце гукі ў выдзеленым слове.
- Да выразу *да скону дзён* падбярыце блізкі па значэнні выраз.

Успомніце!

- Назавіце прыметы тэксту.
- Раскажыце пра цікавае здарэнне або пра сваю сям'ю, пра сяброў. На якую тэму атрымаўся тэкст? Якая яго асноўная думка?
- Для чаго тэксту загаловак?

**8.** Прачытайце тэкст. Назавіце тэму і асноўную думку тэксту. Якія прыметы тэксту вы ведаеце?

### Мая Радзіма

Мая Радзіма — гэта краіна, дзе я нарадзіўся. Гэта краіна маіх бацькоў і дзядоў. Мая Радзіма — Рэспубліка Беларусь. Вялікая і цудоўная яна.

Мінск — сталіца і самы вялікі горад Беларусі. Галоўная вуліца горада — праспект Незалежнасці. У цэнтры горада — плошча Перамогі. На ёй узвышаецца помнік воінам і партызанам, што загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Наша мова — беларуская. Яе дзеці вывучаюць у школах. На беларускай мове выдаюцца газеты і часопісы. Беларускія пісьменнікі пішуць цікавыя кнігі. *З часопіса «Вясёлка»*

- Колькі частак у тэксце?


Сцісла перакажыце тэкст па плане:

1. Мая Радзіма — Беларусь.
2. Мінск — сталіца Беларусі.
3. Наша мова — беларуская.

***веласіпéд***

Успомніце!

- На якія тэмы вы гутарыце з сябрамі?
- Што такое тэма тэксту?
- Прачытайце тэкст. Якая яго асноўная думка?

*Пасля ўрокаў я заспяшаўся дадому. Мяне ж даўно ўжо чакае веласіпед. А тут насустрач бабулька ідзе з поўным вядром вады. Я дапамог ёй данесці ваду. Веласіпед можа крыху пачакаць.*

- Што такое асноўная думка тэксту?

**9.** Разгледзьце малюнак. Складзіце вусны тэкст з дзвюх частак:

1. Мой клас.
2. Урок беларускай мовы.




- Назавіце тэму і асноўную думку тэксту.
- Дайце тэксту загаловак.

**Успомніце!**

○ Які тэкст называецца апісаннем?

○ Якія словы ўжываюцца для апісання прадметаў у тэксце? Апішыце лісіцу, зайца, ваўка (на выбар).



○ Які тэкст называецца апавяданнем?

○ Якімі словамі ў тэксце перадаецца развіццё падзей? Раскажыце пра вясёлае здарэнне.

**10.** Прачытайце часткі тэксту. Колькі іх? Размясціце іх у патрэбным парадку.

I. Коцік быў маленькі. Поўсць у яго чорная, пушыстая. На лапках белыя шкарпэткі. Мы звалі яго Васькам.

II. Аднаго разу тата прынёс дадому коціка. У коціка не было гаспадара. Ён жыў на вуліцы і часта галадаў.

III. Ваську ўсе ў сям'і любілі. А маленькая Насця нават спаць без яго не магла. Коцік Васька замурлыча, і Насця хутка засынае. *Паводле М. Капыловіча*

- Якія словы выкарыстоўваюцца для апісання коціка?
- Вызначце тэму тэксту. Прыдумайце загаловак і запішыце тэкст.
- Растлумачце напісанне слоў з вялікай літары.

**11.** Прачытайце тэкст. Чаму яго можна назваць апісаннем?

***спяко́тны***

**На Сцюдзёнцы**

Сцюдзёнка — не дужа шырокая р..ка, але вельмі глыбокая. Сцюдзёнкай яе назвалі невыпадкова. Нават у самы сп..котны дзень в..да ў р..цэ х..лодная, проста л..дзяная. Гэта таму, што б..жыць яна праз густы цёмны лес, праз балоты. Тысячы крыніц і

крынічак упадаюць у яе. У Сцюдзёнцы многа ракаў і м..нтузоў. Ёсць і плоткі, і акуні, і нават сомікі. *М. Ваданосаў*

● Спішыце. Устаўце патрэбныя літары ў словы. Растлумачце напісанне галосных ***о, э — а*** і ***е, ё — я***.

● Словы *крыніц* і *крынічак* разбярыце па саставе. Для чаго служаць суфіксы ў словах?



**12.** Прачытайце тэкст і параўнайце яго з папярэднім. Якія агульныя прыметы яны маюць? Як адрозніць тэкст-апавяданне ад тэкста-апісання?

### Цімох і Кум

Неяк сабраліся мы ўсёй сям'ёй на дачу. Узялі з сабой і ката Цімоха. Там Цімох сустрэў сябра. Гэта быў сусед па дачы — сіямскі кот Кум. Цімох і Кум былі вельмі падобныя. Кум толькі крыху цямнейшы і меншы.

Каты здружыліся. Яны насіліся між градак, лазілі па дрэвах і кустах, ляжалі пад акном і грэліся на сонцы. Але болей за ўсё любілі спаць у крэсле. Пакладуць галовы адзін на аднаго, і нішто іх не трывожыць. Можна было падумаць, што гэта браты-блізняты. *Паводле А. Кудраўца*

● Спішыце тую частку тэксту, дзе гаворыцца пра паводзіны катоў на дачы.

● У якім сказе выказваецца асноўная думка тэксту?

**13.** Прачытайце. На якую тэму гэты тэкст? Прыдумайце яму загаловак.

Усё добрае на свеце ствараецца працай чалавека. Чалавек не можа жыць без працы, без любімай справы. Чалавек будуе новыя дамы, вырошчвае хлеб, піша кнігі.

Вучоба ў школе — гэта таксама праца. Вучоба — крыніца самай вялікай радасці пазнання рэчаіснасці. Хто можа адчуць радасць пазнання? Напэўна, толькі той, хто любіць і ўмее вучыцца.

Вучыцеся, дарагія сябры! *Паводле В. Віткі*

- Вызначце сказ, у якім выказваецца асноўная думка тэксту.
- Запішыце тую частку тэксту, у якой гаворыцца пра вучобу.
- Да слова *вучоба* падбярыце аднакаранёвыя словы. Абазначце корань слова.

Успомніце!

**Што такое сказ?**

- Пра каго або пра што можна сказаць у сказе?
- Якія бываюць сказы па мэце выказвання?
- З якой мэтай ужываюцца апавядальныя сказы?
- З якой мэтай ужываюцца пытальныя сказы?
- Што выказваецца пабуджальным сказам?

**14.** Прачытайце. Вызначце межы сказаў у тэксце. Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку ў канцы сказаў.

### На беразе ракі

Прыемна с**я**дзець ціхім летнім ранкам на беразе р**а**кі не зварухнецца ніводная травінка не ш**а**почуць на кустах лісточкі ледзь чутна булькоча в**а**да толькі час ад часу ўсплёсне неспакойная рыба цешыцца сэрца рыбака а як лёгка дыхаецца свежым вільготным паветрам. *Паводле У. Шахаўца*

- Запішыце тэкст. Растлумачце напісанне выдзеленых літар у словах.
- Растлумачце выраз *час ад часу*.

**15.** Прачытайце. Што выказваецца ў кожным сказе: паведамленне, пытанне, просьба?

### У бібліятэцы

В у ч а н ь: Якія цікавыя кнігі ёсць у вашай бібліятэцы?

Б і б л і я т э к а р: На нашых паліцах стаяць кнігі пра добрых і верных сяброў, пра розныя здарэнні, пра жывёл.

В у ч а н ь: Дайце мне, калі ласка, кнігу пра добрых і верных сяброў.

- Запішыце размову.





Прыдумайце па малюнках размову на тэмы: «У класе», «У магазіне», «На кухні». Ужывайце апавядальныя, пытальныя і пабуджальныя сказы.

**16.** Прачытайце верш. Вызначце сказ, які вымаўляецца з моцным пачуццём і асаблівай інтанацыяй.

## Вясёлка на крыле

Ударылі кроплі па даху.
Вадой захлынулася гаць.
А чайкі ўзлятаюць з размаху
і ў бляску маланак ляцяць.

Хай лівень іскрысты і колкі
апошнія кроплі пральe
і ўспыхнуць пад сонцам вясёлкі
ў чайкі на мокрым крыле!

*С. Грахоўскі*

- Выпішыце клічны сказ.
- Словы *ляцяць — узлятаюць* разбярыце па саставе. Якая роля прыставак і суфіксаў у словах?

**Успомніце!**

Як называецца сказ, у якім выказваюцца моцныя пачуцці? Прачытайце: *На свеце няма нічога мілей за роднае слова!*

**17.** Прачытайце выразна верш. Ахарактарызуйце сказы па мэце выказвання і інтанацыі.

Кожны пачынае
дзень на ўласны лад.
У мяне і працы,
і надзеі шмат.

Як зрабіць што-небудзь?
Думы чарадой.
Гэта ж дзень вялікі
ўвесь перада мной!

*П. Броўка*

● Вывучыце верш. Запішыце яго па памяці. З якой інтанацыяй чытаецца клічны сказ?

**Успомніце!**

❍ Як вымаўляецца апавядальны сказ? Прачытайце: *Восень надышла.*

❍ Як вымаўляецца пытальны сказ? Прачытайце: *Восень надышла?*

❍ Як вымаўляецца клічны сказ? Прачытайце: *Восень надышла!*



**18.** Спішыце, пастаўце ў канцы сказаў патрэбныя знакі прыпынку.

1. Дзе пачынаецца Радзіма *(.?!)* Яна пачынаецца там, дзе ты жывеш *(.?!)* *(К. Кірэенка)* 2. Радзіма мая дарагая, красуйся і ў шчасці жыві *(.?!)* *(А. Бачыла)* 3. Навекі слаўся, родны край *(.?!)* *(К. Кірэенка)* 4. Хай славіцца і красуе наша родная зямля *(.?!)* *(П. Панчанка)* 5. Давайце дружна песню звонкую спяём *(.?!)* *(З. Бядуля)*

**Успомніце!**

- Назавіце галоўныя члены сказа. Што такое дзейнік? Што такое выказнік?
- Вызначце галоўныя члены сказа: *Зранку над лугам вісеў шэры туман.*

**19.** Прачытайце. Падзяліце тэкст на сказы. Назавіце ў сказах дзейнік і выказнік. Якімі часцінамі мовы выражаны дзейнік, выказнік?

Стаіць прыгожы дзень такія дні звычайна бываюць у канцы жніўня ужо даўно скончылася жніво над апусцелым полем дружна ўзлятаюць чародкі шпакоў на бярозе трапечуцца пажаўцелыя лісты высока ў небе ляціць няведама куды самотная павуцінка над купчастай імшарынай* узняўся бусел у блакітным небе ярка свеціць сонейка. *Паводле М. Лынькова*

- Прыдумайце загаловак і запішыце тэкст. Расстаўце знакі прыпынку ў канцы сказаў.

**20.** Прачытайце. Падзяліце тэкст на часткі. З кожнай часткі тэксту выпішыце выдзелены сказ, які можа быць яе загалоўкам.

### Восень

Яшчэ тыдзень назад на лузе калыхаліся высокія зялёныя травы. Над кветкамі з вясёлымі песнямі лёталі работніцы-пчолкі. На высокай траве калыхаліся матылькі. **Цяпер луг не вабіць сваёй прыгажосцю.** Адны толькі дзябёлыя стагі параскідаліся па грудочках. Вырасла маладзенькая травіца-атава. **Апусцелі за вёскай жытнёвыя палі.** Не вядзе гутаркі ціхі вецер з каласамі збожжа. Не спяваюць жаваранкі ў небе. **Восень накладвае свой след і ў лесе.** Пажоўклае лісце патроху асыпаецца на дол. Толькі сосны і елкі стаяць зялёныя. Прайшла вясёлая пара. *Паводле Я. Коласа*

● Падкрэсліце дзейнік і выказнік у сказах. Якія словы далучаюцца да галоўных членаў сказа? Вызначце іх сувязь з дзейнікам або выказнікам па пытаннях.

**21.** Адкажыце на пытанні па ўзоры.

Узор. *Куды ляцяць пералётныя птушкі? — Пералётныя птушкі ляцяць у вырай.*

1. Калі яны вернуцца?
2. Што робяць дзеці для птушак, якія застаюцца зімаваць?

● Запішыце адказы на пытанні. Падкрэсліце галоўныя члены сказа. Пастаўце пытанні да іншых слоў у сказе. (Карыстайцеся памяткай на форзацы.)

● Слова *пералётныя* разбярыце па саставе. Успомніце, для чаго служыць прыстаўка.

**Успомніце!**

❍ Словы ў сказе звязаны паміж сабой. Як устанавіць сувязь паміж словамі ў сказе?

❍ Пастаўце пытанні ў дужках, якія паказваюць на сувязь слоў у сказах: *Кнігі ляжаць (...) на стале. Тата паехаў (...) у Мінск.*

**22.** Разгледзьце малюнкі. Складзіце і запішыце сказы па схемах.







1. ________ ═══════ ... .
2. ... ________ ═══════ .
3. ... ________ ═══════ ... .

● Устанавіце сувязь слоў у сказе па пытаннях.



**23.** Спішыце. У першым сказе вызначце дзейнік і выказнік. Назавіце дадзеныя члены сказа. Устанавіце сувязь слоў у сказе па пытаннях.

### Усе дарогі пачынаюцца ад роднага дому

Чалавек заўсёды памятае свой родны дом. Тут ён навучыўся хадзіць. Тут ён адчуў цяпло і ласку матчыных рук. Ад роднага дому пачынаецца дарога ў вялікае жыццё...

- Прыдумайце працяг апавядання на гэтую тэму (вусна).

**24.** Прачытайце і спішыце.

Роднае слова! Ты нам тлумачыш усе дзівы свету, якія дзіцячае вока бачыць навокал сябе першы раз. І табе выказваем мы свой дзіцячы жаль, крыўду, жаданне, радасць. *Паводле Цёткі*

- Для чаго служыць слова?
- Знайдзіце ў тэксце назоўнікі, прыметнікі, дзеясловы.

**Успомніце!**

○ Што абазначае назоўнік? Падбярыце словы па пытаннях: ш т о  г э т а? — ...; х т о  г э т а? — ... .

○ Што абазначае прыметнік? Падбярыце словы па пытаннях: я к і? — ...; ч ы й? — ... .

○ Што абазначае дзеяслоў? Падбярыце словы па пытаннях: ш т о  р о б і ц ь? — ...; ш т о  з р о б і ц ь? — ... .

**25.** Прачытайце. Назавіце ў тэксце назоўнікі. Вызначце іх лік і род у адзіночным ліку.

Прыемна пабываць восенню ў пушчы. На імшарах, у сасняку, пераспелі буякі. На іх кропелькі вады — ад расы. Буякі сакавітыя, таму ад іх не хочацца піць. Толькі галава баліць. Але гэта не ад дурніц, а ад багуну*, з якім яны растуць. Багун высокі. Спадыспаду ён пачырванеў і асыпаецца. І пахне-пахне.

Найсмачнейшыя цяпер брусніцы. Яны на пасецы растуць шышкамі, як бабок на балоце. Сашмаргнеш шышку — поўная жменя.

У імшарах на куп'і спеюць журавіны. Пахаваліся ў мох. Журавіны яшчэ толькі пачалі ружавець. Па іх трэба пазней ісці, калі ўжо асыпаецца бярэзнік.

Крычаць у траве дзікія качкі. Недзе над галавой дзяцел дзяўбе старую, без верху сасну. Каля дзятла ціңькаюць сініцы. Сонца паварочвае на захад. У небе застылі ружовыя хмаркі. З балота падзьмуў халадок. Хутка ўсё супакоіцца, застыне. *Паводле І. Пташнікава*

- Выпішыце назоўнікі:

  ***адзіночны лік:***

  мужчынскі род — *сасняк*, …

  жаночы род — *пушча*, …

  ніякі род — *балота*, …

  ***множны лік*** — *імшары*, …
- Зрабіце гука-літарны разбор слова *сініцы*.

**26.** Прачытайце верш. Выпішыце прыметнікі разам з назоўнікамі, да якіх яны адносяцца.

### Вырай*

Хапае **восеньскай** лагоды,
яшчэ далёка халады.
У дужакрылыя чароды*
сабраўся вырай малады.

Ад развітальнай песні шчырай
тужлівей робіцца ў палях.
Ляціць у вырай новы вырай,
каб паўтарыць адвечны шлях.

*Р. Барадулін*

● Разбярыце слова *восеньскай* па саставе. Для чаго служыць суфікс?

**27.** Пастаўце пытанні ад назоўніка да прыметніка і вызначце іх сувязь.

Ву*(з/с)*кая сце*(ж/ш)*ка, сало*(д/т)*кая яга*(д/т)*ка, стары ду*(б/п)*, маладая бяро*(з/с)*ка, бера*(г/х)* ракі, рэ*(д/т)*кі лес, ні*(з/с)*кі чалавек, школьны са*(д/т)*, лё*(г/х)*кі хле*(б/п)*.

● Якія літары трэба напісаць у словах? Падбярыце праверачныя словы.

● Складзіце і запішыце два сказы са словазлучэннямі (на выбар).

**28.** Разгледзьце малюнкі і ўспомніце казку «Як курачкі зярнятка падзялілі».






- Складзіце і запішыце сказы па пытаннях:
  1. Якое зярнятка знайшлі курачкі?
  2. Што яны вырашылі зрабіць з зярняткам?
  3. Які каласок вырас з зярнятка?
  4. Колькі зерня намалацілі курачкі?
- Вызначце ў сказах назоўнікі, прыметнікі і дзеясловы.

**29.** Спішыце. Абазначце лік і род назоўнікаў.

На в**я**сковай вуліцы засталася пакінутая сядзіба. Тут я ўбачыў м**а**ладзенькі вішняк. Вішанькі р**а**слі кучкамі. Сярод лісця я ўбачыў чырвоную яга**д**ку, побач яшчэ адну. Я нагнуў галіну ўніз, узяў у руку цёплую ягаду — і ў рот. Салодкая! Нават костачку ледзь не праглынуў. *Паводле М. Ваданосава*

- Растлумачце напісанне слоў з выдзеленымі літарамі.
- Знайдзіце аднакаранёвыя словы і абазначце корань.

**Успомніце!**

- Як змяняюцца дзеясловы?
- Як вызначыць час дзеяслова?

**30.** Прачытайце верш. Пастаўце пытанні да дзеясловаў і вызначце іх час і лік.

— Якія ў восені прыметы?
Вядома вам? Скажыце вы.
— На крылах бабінае лета
нясуць у вырай жу́равы.
— І ўсё?
— Не ўсё. Нясе ваверка
арэхі спелыя ў дупло.
Лістамі сцеле вожык норку,
каб цёпла ў ёй зімой было.
— І ўсё?
— Не ўсё. Мядзведзь бярлогу
між ельніку свайго густога
шукае, ляжа ў снегапад.
Буслы на поплаве, за стогам,
сышліся, быццам на парад.
— І ўсё?
— Не ўсё. У родным полі
рунь сцелецца, плыве ўпрасцяг.
І як ніколі, як ніколі
ў вёсках, сёлах, гарадах
прапах укропам, духам кменным
і кожны дом, і кожны стол...

*А. Бялевіч*

● Выпішыце назоўнікі разам з прыметнікамі. Абазначце іх лік.

У з о р: *бабінае лета* (адз. л.), *спелыя арэхі* (мн. л.).



**31.** Спішыце. Вызначце час і лік дзеясловаў.

### Блакітная ніва

*абша́р*

Высока ў блакітным небе звініць жаваранак. Сонейка грэе зямлю залатымі промнямі. Толькі льняны абшар* яшчэ не прачнуўся ад начнога спакою. І раптам падзьмуў ветрык. Заварушылася блакітная ніва. Пабеглі па ёй адна за адной хвалі.

Шмат дзён будзе цвісці льняное поле. Але кожная кветачка пражыве толькі паўдня. *Паводле Т. Цулукідзэ*

● Падкрэсліце галоўныя члены сказа. Якімі часцінамі мовы яны выражаны?

### ПРАВЕРЦЕ СЯБЕ

1. Што такое тэкст?
2. Якія бываюць сказы?
3. Што такое дзейнік?
4. Што такое выказнік?
5. Якія часціны мовы вы ведаеце? Дайце ім азначэнні.
6. Як змяняюцца назоўнікі, прыметнікі, дзеясловы?

# ТЭКСТ

## Сувязь сказаў у тэксце

**32.** Прачытайце тэкст. Як звязаны сказы ў тэксце?

**Восеньскія весткі**

Закончылася лета. Што ж адбылося, што ж змянілася? Неба чыстае. Ярка свеціць сонца. Ціха шумяць яшчэ густыя і зялёныя дрэвы.

З прыходам восені настрой чамусьці змяніўся. У чым жа прычына? Аказваецца, зніклі радасныя воклічы маладых ластавак. Яны навучыліся ўжо лятаць і выправіліся ў далёкую дарогу.

Ластаўкі зніклі. Яны адчулі, што ідзе восень. З восенню набліжаюцца халады. І першымі аб гэтым падаюць вестку ластаўкі. *Паводле В. Віткі*

- Перакажыце тэкст.
- Запішыце тую частку тэксту, у якой гаворыцца пра змяненне настрою з надыходам восені.

**33.** Прачытайце. Вызначце тэму кожнага тэксту. Прыдумайце загалоўкі да тэкстаў.

1. У суботу Ала разам з мамай гаспадарыць у доме. Спачатку Ала выцірае пыл на мэблі. Але больш

за ўсё дзяўчынка любіць паліваць кветкі. У яе для гэтага ёсць маленькая палівачка.

Аднойчы Ала мыла акно. Яна старалася. Шыбы ажно папісквалі. Дзяўчынка скончыла работу і адышла ад акна. Зірнула на шыбу і здзівілася. Шкло стала такім празрыстым, як быццам яго зусім няма.

2. Ала вучыцца ў чацвёртым класе. Яе настаўніцу завуць Марыя Іванаўна. Ала вельмі любіць матэматыку.

Аднойчы настаўніца выклікала Алу да дошкі рашаць задачу. Задача была складаная, але дзяўчынка не прасіла дапамогі. Настаўніца пахваліла Алу за стараннасць і настойлівасць.

***чацвёрты***

- Што такое тэма тэксту?
- Запішыце тэкст пра маміну памочніцу.
- Раскажыце, як вы дапамагаеце сваім бацькам.

**34.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак. Устаўце прапушчаныя словы, якія не павінны паўтарацца. Як звязаны сказы ў тэксце?

Каля хаты раскінуўся садок. ... растуць яблыні, грушы, слівы, вішні. Кожны дзень дзядуля даглядае ... . ... ахвотна дапамагае Паўлік. ... зграбае пад дрэвы апалае лісце. ... не дасць карэнням замерзнуць зімой.

- Запішыце тэкст.
- Падкрэсліце словы, пры дапамозе якіх сказы звязаны паміж сабой.



Сказы ў тэксце звязаны паміж сабой па сэнсе. Кожны сказ павінен адпавядаць тэме і асноўнай думцы тэксту.

Для сувязі сказаў у тэксце трэба ўжываць словы, якія не паўтараюцца: *Паўлік — хлопчык, ён; птушка — яна* і інш.



**35.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту і прыдумайце яму загаловак. Запішыце тэкст.

Кожнае лета Дзіма жыве ў дзеда. Там хлопчык заўсёды знойдзе сабе занятак. То ён возьме і адрамантуе плот, то дровы складзе пад павець*. Але больш за ўсё хлопчык любіць на веласіпедзе катацца. Нечым жа трэба яму займацца. На тое і канікулы. *Паводле Р. Ігнаценкі*

- Падкрэсліце словы, якія звязваюць сказы ў тэксце.

**36.** Прачытайце сказы парамі. Падбярыце словы, пры дапамозе якіх можна ўстанавіць сувязь сказаў.

1. У садзе расце старая яблыня. *На ... спеюць салодкія яблыкі.*
2. Адразу за вёскай пачынаецца лес. *У ... растуць грыбы і ягады.*
3. На беразе ракі сядзяць рыбакі. *... ловяць рыбу.*
4. У нашай вёсцы будуецца новая школа. *У ... будуць вучыцца дзеці.*

- Запішыце сказы. Падкрэсліце галоўныя члены сказа.

**37.** Прачытайце. Пабудуйце сказы са слоў у дужках. Пры дапамозе якіх слоў яны звязаны з папярэднімі сказамі ў тэксце?

*ззяць*

### Развітанне з сонцам

Праз акно ў дом зазірнула сонца. (перад, развітаннем, кідае, у, акно, свае, промні, яно) Вось і цяпер сонца светлай палоскай промняў абняло пакой. (пасвятлеў, ён) Фарбы прыметна паярчэлі. (ярка, асабліва, ззялі, яны, на, развешаных, малюнках, на, сцяне). *Паводле У. Шахайца*

- У пабудаваных сказах падкрэсліце дзейнік і выказнік.

**38.** Разгледзьце малюнак. Раскажыце аб першых прыметах восені.

### Першыя прыметы восені



- Пад дадзеным загалоўкам запішыце тэкст па плане:
  1. Як выглядае прырода восенню?
  2. Што адбываецца на палетках?
  3. Куды спяшаюцца дзеці?
  4. Куды збіраюцца птушкі з надыходам восені?



**39.** Дапоўніце сказы словамі, якія адказваюць на пастаўленыя ў дужках пытанні. Падбярыце да тэксту загаловак і запішыце.

(К а л і?) ... пачынаецца ўборка (я к о г а?) ... ўраджаю (ч а г о?) ... .

(К у д ы?) ... выйшла (я к а я?) ... тэхніка. Закіпела (я к а я?) ... праца.

Словы для даведкі: *агароднiна, багаты, восенню, у поле, дружны, сельскагаспадарчы.*

- Вусна дапоўніце апавяданне сваімі сказамі.
- Падкрэсліце галоўныя члены сказа. Назавіце словазлучэнні.

## Часткі тэксту

**40.** Прачытайце. Да якога тыпу можна аднесці гэты тэкст: апісанне ці апавяданне?

*ле́дзьве*

### Горкі мёд

Сонечным днём прыехаў я да дзеда Зміцера.

Дзе*д* быў у са*дз*е каля вуллёў. Я падышоў пагля*дз*ець. Па праў*дз*е сказаць, у мяне слінкі пацяклі, калі я ўбачыў рамку са свежым мя*д*ком. А мё*дз*ік быў такі салодзенькі і пахучы. Толькі я ўзяў рамку ў рукі і паднёс да ро*т*а, як аднекуль вылезла пчала і села на губу. Я зажмурыўся, сунуў дзеду рамку з мё*д*ам і бягом у ха*т*у. Ледзьве ўцёк.

Потым прыйшоў дзед Зміцер. Сподачак сонечнага пахучага мё**дз**іку прынёс. А ў мяне губа апухла, і мёд у ро**ц**е здаваўся горкім. *Паводле У. Ягоўдзіка*

- Колькі частак у тэксце? Запішыце пачатак і асноўную частку тэксту.
- Растлумачце напісанне ***д—дз, т—ц*** у словах.
- Прыдумайце сваю заключную частку і раскажыце.

**41.** Прачытайце тэкст. Паназірайце, якія словы ўжываюцца для апісання куранят.

У нашых сенцах жылі куранята. Яны былі маленькія, жоўценькія. Вочкі чорненькія, нібы гузічкі. Доўгія лапкі, як палачкі, уваткнутыя ў камячкі жоўтага пуху. Голас у іх звонкі. Як пачнуць ціўкаць, хоць вушы затыкай! Квактуха сядзе ў рэшата, затуліць іх крыламі, яны паціўкаюць яшчэ трохі і засынаюць. *Паводле Я. Брыля*



- Падзяліце тэкст на часткі:
  1. Назва прадмета.
  2. Апісанне прымет прадмета.
- Падбярыце прыметнікі да назоўнікаў і запішыце: *кураняты ...; вочкі ...; лапкі ...; голас ... .*

**42.** Разгледзьце малюнкі і раскажыце пра жыццё птушак у розныя поры года.



- Па малюнках складзіце і запішыце тэкст. Прыдумайце да тэксту загаловак і пачніце тэкст так:

  *У кожную пару года ў птушак свае клопаты...*
- Колькі частак ў тэксце? Назавіце іх.

**43.** Прачытайце. На якую тэму гэты тэкст? Прыдумайце загаловак.

Гэты бера.. ракі Вярбінкі вышэйшы. Адсюль добра відаць вёску Залессе, якая раскінулася на тым беразе. Хаты здаюцца маленькімі і вельмі акуратнымі. Яны туляцца а..на да а..ной. Чыстыя і ро..ныя вуліцы. Каля кожнага дома стаяць ла..кі, на якіх любяць пас..дзець в..скоўцы. *Паводле У. Шахаўца*

- Які гэта тэкст — апісанне ці апавяданне?
- Падзяліце тэкст на дзве часткі:
  1. Назва прадмета.
  2. Апісанне прадмета.
- Запішыце тэкст і ўстаўце прапушчаныя літары.



Тэксты-апісанні падзяляюцца на дзве часткі:

1) агульнае ўражанне ад прадмета, яго назва;

2) раскрыццё прымет прадмета.

У тэкстах-апісаннях можа быць і трэцяя частка, якая дае ацэнку прадмету.

Кожную частку тэксту трэба пісаць з чырвонага радка.

**44.** Прачытайце апісальны тэкст. Падзяліце яго на часткі. У якой частцы тэксту даецца агульная ацэнка прадмету?

Цудоўныя мясціны знаходзяцца каля ракі Бярэзіны. Шырокія лугі з азёрамі, рака з абрывістымі берагамі, сіняе неба з лёгкімі воблакамі, багатыя сады, што адгароджаны ад халодных вятроў зялёнай сцяной бору. Мабыць, больш нідзе няма такой прыгажосці. *Паводле М. Ваданосава*

- Запішыце тэкст па частках. Кожную частку пішыце з чырвонага радка.
- Якая асноўная думка тэксту?

 **45.** Прачытайце тэкст. Прыдумайце загаловак.

Быў ціхі ле*т*ні *дз*ень. У такія *д*ні на сінім небе ні воблачка. Любачцы стала цікава, чаму няма ве*т*ру. Дзяўчынка папрасіла тату, каб ён паказаў, дзе жыве ве*ц*ер. І тата з Любачкай пайшлі ў лес шукаць ве*ц*ер. Прыйшлі ў зялёную дуброву. Дыхнула свежасцю. На доўгіх сцяблінках калышуцца белыя

кветкі. Завуць іх ве*т*раніцай дуброўнай. Нават у самае ціхае надвор’е гойдаюцца гэтыя белыя кветкі. Дык вось дзе жыве ве*ц*ер! *Паводле Ф. Рамашкі*

- Падзяліце тэкст на тры часткі і запішыце першую частку.
- Растлумачце напісанне ***т—ц, д—дз*** у словах.



Тэкст-апавяданне можна падзяліць на тры часткі:

1) пачатак падзеі;
2) разгортванне падзеі;
3) заканчэнне.

Кожную частку тэксту трэба пісаць з чырвонага радка.

**46.** Прачытайце і падзяліце тэкст-апісанне на часткі. Прыдумайце загаловак.

Час к..лашэння* жыта, бадай, самы цудоўны. Дрэвы, хмызнякі ў свежай зел..ніне. Пазней лістота на іх паблекне, агрубее. Зараз жа ўсё м..ладое, пышнае, з..лёнае. Доўгія чэрвеньскія дні звычайна стаяць пагодлівыя, цёплыя. Кароткія ж ночы — ціхія, мяккія. *Р. Ігнаценка*

- Растлумачце напісанне літар, якія трэба ўставіць.
- Запішыце тэкст.

**47.** Прачытайце тэкст. Знайдзіце ў ім разважанне хлопчыка аб прычынах здарэння.

І чаму так выйшла, што я захварэў? Я ж хлопец загартаваны, бо займаюся спортам.

Аднойчы на школьным стадыёне мы з хлопцамі гулялі ў футбол. Набегаліся так, што аж мокрыя сталі. І вельмі захацелася мне піць. Я не стрымаўся, пабег да крана з халоднай вадой. Напіўся сцюдзёнай вадзіцы ды яшчэ і галаву абліў. Было так прыемна. А цяпер? На табе — хворы.

Гэта, мабыць, ад халоднай вады цяпер ляжу ў пасцелі.

***сцюдзёны***

- З якіх частак складаецца тэкст-разважанне?
- Пра што гаворыцца ў пачатку тэксту?
- Пра што гаворыцца ў асноўнай частцы тэксту?
- Пра што гаворыцца ў заключнай частцы тэксту?

**48.** Прачытайце. Закончыце апавяданне і запішыце.

Мы селі снедаць. Мама напякла такіх смачных аладак і падала на стол са смятанай.

**Коцік Мурлыка ціхенька падышоў да стала.** Ён схіліў набок галаву і зялёнымі вочкамі пільна сачыў за мамай. Было зразумела, што Мурлыка просіць аладку са смятанай.

- Якія часткі можна выдзеліць у тэксце?
- У выдзеленым сказе вызначце галоўныя члены сказа.

**49.** Прачытайце і прадоўжыце тэкст-апісанне.

У нас жыве **сабачка** Шарык. Ён яшчэ **маленькі. Хвосцік кароценькі.**

- Падзяліце тэкст на часткі і запішыце. Кожную частку тэксту пачынайце пісаць з новага радка.
- Выдзеленыя словы разбярыце па саставе.

**50.** Прачытайце тэкст. Знайдзіце апісанне летняга дня.

Дз***е***нь быў сп***я***котны і в***е***траны. Хвалявалася жытн***ё***вае мора. Хвалі наб***я***галі адна на адну, разбіваліся ў нізіне, адступалі назад на ўзгорак, на нейкі момант нібы заміралі на адным м***е***сцы. Разам з хвалямі рухаліся на п***о***лі к***о***леры і адц***е***нні. Нахілялася збажына, лажыўся к***о***лас на к***о***лас — ц***я***мнеў к***о***лер. Праб***я***гала хваля, выпрамлялася жыта, і к***о***лер яго адразу зм***е***ньваўся, набываў натуральныя в***я***сёлыя летнія фарбы. *Паводле І. Шамякіна*

- Падзяліце тэкст на часткі і запішыце.
- Растлумачце напісанне ***о — а*** і ***е, ё — я***.



У тэксце-разважанні тлумачацца або даказваюцца прычыны розных здарэнняў, падзей.

Тэкст-разважанне можна падзяліць на тры часткі:

1) назва таго, што тлумачыцца або даказваецца;
2) тлумачэнне таго, што адбываецца;
3) вынік або вывад пра падзею або здарэнне.

**51.** Разгледзьце малюнкі. Апішыце вожыка. Паразважайце, для чаго вожыку калючкі.





- Прыдумайце загаловак і складзіце тэкст з элементамі разважання. Раскажыце.



**52.** Прачытайце тэкст. Знайдзіце ў тэксце сказ, якім можна выказаць асноўную думку.

**Крыніца**

Пад гарою пачынаўся і бег да рэчкі малы ручаёк. Да яго вяла вытаптаная сцежка. Усе прыходзілі сюды піць ваду.

Вада ў крыніцы чыстая, халодная. Яна біла з-пад зямлі і спакойна цякла ў ручаёк. Ён спачатку бег адным рэчышчам, а потым раздвойваўся, разліваўся па лузе каля ракі.

Дзед зрабіў карэц* і павесіў на сук старой вярбы каля крыніцы. П’еш з яго ваду, а яна пахне бярозавым сокам. *Паводле Р. Ігнаценкі*

- У якой частцы тэксту апісваецца крыніца? Выпішыце яе.
- Вусна перакажыце тэкст па плане:
  1. Сцежка да ручайка.
  2. Крынічная вада.
  3. Карэц для вады.

**53.** Прачытайце і вызначце сэнсавыя часткі тэксту. Пра што гаворыцца ў кожнай з іх?

## Верасень

Зайшоў Верасень у сады цяністыя, атрос ігрушы залацістыя, сарваў з яблынь духмяныя антонаўкі, ахутаў туманамі слівы сінія.

Выйшаў у поле, назбіраў поўныя мяхі бульбы, пазразаў сакавітыя качаны капусты, вырваў з зямлі салодкія буракі.

На лузе склаў у высокія копы атаву і падаўся ў лес.

Ідзе Верасень лесам, прыбірае дрэвы ў дарагія ўборы: бярэзінку — у золата, асінку — у чырвань, дубы ўпрыгожыў меддзю. Пад трухлявыя пянёчкі ды пад густыя кусточкі насадзіў маладзенькіх грыбочкаў. *Паводле К. Каліны*

• Спішыце і абазначце лічбай апошнюю сэнсавую частку. Дайце загаловак кожнай частцы:

1. Верасень у садзе.
2. …


**У тэксце можна вызначыць некалькі сэнсавых частак. Кожная сэнсавая частка мае пэўную лагічную завершанасць.**

**54.** Прачытайце і падбярыце загаловак да тэксту. Колькі сэнсавых частак у тэксце?



Цётка Марыля жыве адна ў хаце і вельмі баіцца злодзеяў. Яна папрасіла ў таты сабаку на ўсё лета. Тата прывёз цётцы нашага Жука.

Жук доўга не мог супакоіцца на новым месцы. Ляжыць ён, маўчыць, а потым пачынае выць ад сумных думак.

Кот Васька з ім спачатку не сябраваў. Усё ходзіць па двары, таксама сумуе. Залезе на будку, разбудзіць Жука, той узлуе.

Пасля Жук перастаў злаваць на Ваську. Цэлы дзень бегаюць яны па двары. А вечарам стаяць каля сенцаў і чакаюць, каб ім чаго далі. *Паводле Я. Брыля*

- Дайце кожнай сэнсавай частцы загаловак і запішыце, каб атрымаўся план.
- Вусна перакажыце тэкст па плане.

**55.** Прачытайце. Колькі сэнсавых частак у тэксце? Вызначце падтэмы кожнай з іх.

*ме́ншы*

### Задзіры

Юраська зірнуў у акно і ўбачыў, як каля ганка разгарэлася бойка. Два чубаценькія вераб'і счапіліся, ажно пер'е ляціць з іх. Адзін з іх быў крыху меншы, але не ўступаў другому.

Юраська пацікавіўся, з-за чаго ж пачалася бойка. Аказалася, што яны не падзялілі хлебную скарыначку.

Хлопчык вырашыў памірыць птушак. Ён набраў поўную жменю круп і сыпнуў праз акно задзірам. Вераб'і дружна пачалі сілкавацца*.

Юраська глядзеў на іх і радаваўся. Цяпер ён ведае, як супакойваць птушак. *Паводле В. Ткачова*

- Складзіце і запішыце план. Перакажыце тэкст па плане.
- Вызначце словы з апострафам і ўспомніце правілы яго напісання.



**56.** Прачытайце тэкст. Падзяліце яго на сэнсавыя часткі і запішыце.

### Пасланцы восені

Гарыць перад акном жаўталістая ліпа. Яна як пасланец сонечнай залатой восені. З першымі замаразкамі злятаюцца звонкія шчыглы. На сваіх

флейтах яны высвістваюць песню. Гэта песня знаёма мне з маленства. Яна напамінае аб набліжэнні зімы. Нешта радаснае і трывожнае адначасова поўніць настрой. Мабыць, адчуваецца душэўная залежнасць чалавека ад прыроды. *Паводле В. Віткі*

- Пра што гаворыцца ў кожнай частцы тэксту?
- Вусна перакажыце тэкст па плане:
  1. Першы пасланец восені.
  2. Песня шчыглоў.
  3. Асенні настрой.

## ПРАВЕРЦЕ СЯБЕ

1. Што такое тэкст?
2. Для чаго ствараецца тэкст-апавяданне? Назавіце яго часткі.
3. Для чаго ствараецца тэкст-апісанне? Назавіце яго часткі.
4. Для чаго ствараецца тэкст-разважанне? Назавіце яго часткі.

# СКАЗ

Успомніце!

- Што такое сказ?
- Назавіце галоўныя члены сказа.
- Як вызначаецца дзейнік?
- Як вызначаецца выказнік?
- Як устанавіць сувязь слоў у сказе?

## Аднародныя члены сказа

**57.** Падзяліце тэкст на сказы. Прыдумайце загаловак і запішыце тэкст.

Надышла восень ідуць дажджы з дрэў ападае лісце але што там зіхаціць у нашым садзе на доўгіх сцяблінах вагаюцца чырвоныя, жоўтыя, белыя кветкі гэта апошнія колеры лета.

- У якім сказе словы вымаўляюцца з інтанацыяй пералічэння? Падкрэсліце пералічэнне прымет прадметаў.
- Які сказ змяшчае пытанне?



Назвы прадметаў, прыметы прадметаў або дзеянні могуць пералічвацца ў сказе. Яны вымаўляюцца з інтанацыяй пералічэння.

**58.** Прачытайце тэкст. Вызначце сказ, у якім словы, вымаўляюцца з інтанацыяй пералічэння.

Людзі ўмеюць гаварыць, слухаць з маленства. У школе дзеці вучацца чытаць, пісаць, лічыць, маляваць, спяваць. Гэтыя ўменні дапамагаюць ім у жыцці, у працы.

- Запішыце тэкст. Падкрэсліце словы, якія вымаўляюцца з інтанацыяй пералічэння і называюць дзеянні.
- Які знак прыпынку ставіцца паміж словамі, якія пералічваюць дзеянні?

**59.** Прачытайце і ўстаўце ў сказы патрэбныя словы. Якую ролю ў сказе яны выконваюць?

З кожным годам Беларусь ________ і ________ . Будуюцца новыя ________ і ________ . Па вуліцах гарадоў рухаюцца ________ , ________, ________ . На палях растуць ________, ________, ________, ________ . У садах спеюць ________, ________, ________ . У лясах водзяцца ________, ________, ________, ________ .

Мы заўсёды ________ і ________ нашу Айчыну.

Словы для даведкі: *гарады, вёскі; аўтобусы, тралейбусы, трамваі; бульба, жыта, капуста, буракі; яблыкі, грушы, слівы; ласі, зубры, дзікі, ваўкі; багацее, прыгажэе; будзем любіць, шанаваць.*

- Запішыце і падкрэсліце ў сказах галоўныя члены сказа.
- Якія члены сказа могуць вымаўляюцца з інтанацыяй пералічэння?



**60.** Складзіце сказы. Якія члены сказа вымаўляюцца з інтанацыяй пералічэння?

Коля, Пеця, Антон, ужо, сябраваць, даўно
хлопчыкі, заўсёды, разам, вучыцца, адпачываць, гуляць

- Запішыце сказы. Паміж словамі, якія пералічваюць асоб і дзеянні, стаўце коскі.
- Падкрэсліце галоўныя члены сказа.

**61.** Прачытайце сказы. Вызначце аднародныя члены сказа. З якой інтанацыяй яны вымаўляюцца?

Збіраюцца ў чародкі (...) ластаўкі, жаваранкі, шпакі. Перад далёкай дарогай птушкі (...) трывожацца, мітусяцца, крычаць. Хутка яны пакінуць родныя (...) лясы, палі, лугі.

- Запішыце. Пастаўце ў дужках пытанні да аднародных членаў сказа.
- Вызначце, якую ролю ў сказе выконваюць аднародныя члены сказа.



Члены сказа, якія выконваюць аднолькавую ролю ў сказе, адносяцца да аднаго агульнага для іх слова і вымаўляюцца з інтанацыяй пералічэння, называюцца **аднароднымі членамі сказа.**

**62.** Складзіце сказы з аднароднымі членамі па малюнках. Запішыце.

У школьным ранцы ляжаць ... .
Летам на рэчцы дзеці ... .
Таня частуе сяброў ... .





- Падкрэсліце галоўныя члены сказа.
- Вызначце ў кожным сказе слова, з якім звязаны аднародныя члены сказа.

**63.** Прачытайце. Вызначце аднародныя члены сказа. Якую ролю ў сказе выконваюць аднародныя члены сказа: дзейніка, выказніка, даданых членаў сказа?

1. У лагчыне на купінах вугольчыкамі гараць вішнёвыя, ружовыя, чырвоныя, белабокія журавіны. *(П. Місько)* 2. Радуюць сэрца збожжа і травы. *(П. Броўка)* 3. Вясёлыя, спрытныя ластаўкі лятаюць над зямлёй. *(Я. Колас)* 4. Верхавіны бяроз варушацца, шумяць ад подыху ветру. *(Я. Брыль)*

- Спішыце. Падкрэсліце аднародныя члены сказа.



**64.** Прачытайце тэкст і вызначце аднародныя члены сказа. Якую ролю яны выконваюць у сказе: дзейнікаў, выказнікаў ці даданых членаў сказа?

Жыццё ў лесе восенню не спыняецца, не замірае. У сасонніках, на імхах, на пянёчках растуць грыбы. Позня кветачкі свецяцца сінімі, жоўтымі, чырвонымі вочкамі. Бярозы, ліпы, дубы пераліваюцца яркім убраннем. Я хаджу, думаю, назіраю. *Паводле І. Навуменкі*

- Спішыце і падкрэсліце аднародныя члены сказа.
- Па якіх прыметах вы распазнаеце аднародныя члены сказа?

**65.** Адкажыце на пытанні. Складзіце сказы з аднароднымі членамі сказа.

1. Якія дрэвы растуць у лесе?
2. Чым вы займаецеся ў вольны час?
3. Якая рыба водзіцца ў рэчцы?
4. У якіх гарадах вы пабывалі?
5. Якімі колерамі зззяе вясёлка?

- Запішыце адказы на пытанні. Паміж словамі, якія пералічваюць прадметы, прыметы, дзеянні, стаўце коскі.
- Падкрэсліце аднародныя члены сказа. Якую ролю ў сказе яны выконваюць?

**66.** Прачытайце сказы. Як можна стварыць сказы з аднароднымі членамі сказа?

Растуць новыя гарады.
Растуць новыя вёскі.



*Растуць новыя гарады, вёскі.*

● Запішыце сказ з аднароднымі членамі сказа.

● Якую ролю ў сказе могуць выконваць аднародныя члены сказа?



**Аднароднымі членамі сказа могуць быць дзейнікі.**

**67.** Разгледзьце малюнак і прачытайце тэкст. Што змянілася ў Мінску з мінулых часоў? Раскажыце пра сённяшні горад.

### Старажытны Мінск

На Нямізе раскінуўся горад з драўлянымі замкамі, вежамі, умацаваннямі. Гэта — старажытны Мінск.

Вузкія, цесныя, звілістыя вуліцы забудаваны невялікімі дамамі. У іх жывуць кавалі, ганчары*, гарбары*, бондары*, залатары*. Каля замкавай сцяны пасуцца каровы, авечкі, козы, свінні.



На рынку каля Мінскага замка ідзе ажыўлены гандаль. На прылаўках ляжыць адзенне, абутак, пярсцёнкі, бранзалеты. Але такія дарагія рэчы толькі для багатых людзей. Беднякі купляюць сякеры, сярпы, палатно, муку. *Паводле В. Вольскага*

• Выпішыце сказы з аднароднымі членамі сказа. Якую ролю ў сказе яны выконваюць?

• Вызначце, з якім словам у сказе звязаны аднародныя члены сказа.



**68.** Прачытайце і падбярыце да сказаў аднародныя дзейнікі. Запішыце сказы, якія атрымаліся.

1) Высока над зямлёй ляцелі ... і ... .
2) Па шырокіх вуліцах Мінска рухаюцца ..., ..., ... .
3) Пахаваліся пад лісце ..., ..., ... .
4) Над кветкамі лётаюць ... і ... .

Словы для даведкі: *аўтобусы, тралейбусы, трамваі, матылькі, пчолкі, лісічкі, сыраежкі, падасінавікі, жураўлі, гусі.*

**69.** Прачытайце сказы. Вызначце галоўныя члены сказа.

1) Коля вучыцца ў чацвёртым класе.
2) Міша вучыцца ў чацвёртым класе.
3) Каця вучыцца ў чацвёртым класе.
4) Таня вучыцца ў чацвёртым класе.

• З дадзеных сказаў пабудуйце сказ з аднароднымі членамі сказа.

• Запішыце сказ з аднароднымі дзейнікамі.

**70.** Прачытайце сказы. Якім членам сказа яны адрозніваюцца?

На агародзе расце бульба.
На агародзе расце капуста.
На агародзе растуць агуркі.
На агародзе расце морква.

- Складзіце паводле гэтых сказаў адзін сказ з аднароднымі дзейнікамі і запішыце.

**71.** Прачытайце тэкст. Знайдзіце паўторы і замяніце іх сказамі з аднароднымі дзейнікамі.

Якая яна, мая зямля? Раскінуліся па ёй палі. Раскінуліся па ёй гаі. Раскінуліся па ёй сады.

Вайна не шкадавала маю зямлю. Голад не шкадаваў маю зямлю. А яна ўсё вытрымала.

Дзяды нашы адбудавалі гарады. Бацькі нашы адбудавалі гарады. Унукі будуць жыць шчасліва на сваёй зямлі. Дзеці будуць жыць шчасліва на сваёй зямлі. *Паводле У. Караткевіча*

- Якая асноўная думка тэксту?
- Дайце тэксту загаловак і запішыце яго без паўтораў.



**72.** Прачытайце сказы. Аб'яднайце іх у адзін сказ з аднароднымі членамі сказа і запішыце.

Восень прыйшла ў вёску.
Восень прыйшла на поле.
Восень прыйшла ў лес.

- Разбярыце па членах сказа.
- Якую ролю выконваюць аднародныя члены сказа?

**73.** Прачытайце сказы. Якім членам сказа яны адрозніваюцца? Замяніце гэтыя сказы адным з аднароднымі членамі сказа па схеме.

Лес ціха шуміць.
Лес ціха гудзе. → ——— ... ═══, ═══, ═══.
Лес ціха стогне.

- Запішыце сказ з аднароднымі членамі. Падкрэсліце іх.



Аднароднымі членамі сказа могуць быць выказнікі.

**74.** Замяніце сказы адным з аднароднымі выказнікамі. Запішыце.

Наша Радзіма прыгажэе з кожным годам.
Наша Радзіма багацее з кожным годам.
Наша Радзіма квітнее з кожным годам.

- Разбярыце па членах сказа.

**75.** Прачытайце сказы. Вызначце аднародныя члены сказа. Якую ролю ў сказе выконваюць аднародныя члены сказа?

1. Лётаюць, сыплюцца зоркі-сняжынкі. *(Я. Журба)*
2. І ад холаду рабінка чырванее, гнецца. *(С. Шушкевіч)*

3. Звоніць, скача, як дзіцятка, гэты жэўжык-ручаёк. *(Я. Колас)*

● Запішыце сказы. Падкрэсліце галоўныя члены сказа.

**76.** Прачытайце. Складзіце тэкст са сказаў з аднароднымі членамі, каб пазбегнуць паўтораў.

Зіхацелі на сонцы рознакаляровыя лісточкі. Пераліваліся на сонцы рознакаляровыя лісточкі. Яны кружыліся. Яны падалі. Зямля пакрывалася мяккім дыванам. Зямля засцілалася прыгожым дыванам. Хутка ўжо прыйдзе зіма. Хутка пачне ўладарыць зіма.

● Запішыце тэкст без паўтораў. Паміж аднароднымі членамі сказа стаўце коскі.



**77.** Прачытайце тэкст. Дапоўніце сказы аднароднымі членамі сказа.

Жыта на полі людзі зжалі, ... . Ужо бульбянік на бульбе павяў, ... . Не спяваюць, ... у небе над полем жаўранкі. Усё адцвіло, ... . Куды ні глянь, усюды ходзіць, ... восень. *Паводле Я. Коласа*

Словы для даведкі: *звезлі, не звіняць, змалацілі, пачарнеў, адшумела, уладарыць.*

● Падбярыце да тэксту загаловак і запішыце. Падкрэсліце аднародныя члены сказа.

**78.** Прачытайце сказы. Якімі словамі адрозніваюцца гэтыя сказы?

Людзі працуюць на заводах.
Людзі працуюць на палях. → ——— ═══ ..., ..., ... .
Людзі працуюць на будоўлі.

- Складзіце і запішыце сказ з аднароднымі членамі па схеме.
- Якую ролю ў сказе выконваюць аднародныя члены сказа?


**Аднароднымі могуць быць дадзеныя члены сказа.**

**79.** Прачытайце. Замяніце сказы адным з аднароднымі членамі сказа.

1. З дрэў асыпаюцца жоўтыя лісточкі. З дрэў асыпаюцца чырвоныя лісточкі. З дрэў асыпаюцца ружовыя лісточкі.
2. Яны кружацца ў паветры. Яны плаваюць у паветры. Яны лётаюць у паветры.
3. Яны падаюць на траву. Яны падаюць на сцежку. Яны падаюць у лужыны.

- Запішыце сказы з аднароднымі членамі.
- Якую ролю ў сказе могуць выконваць аднародныя члены сказа?
- Вызначце сувязь слоў у сказах па пытаннях.

**80.** Запішыце тэкст. Падкрэсліце аднародныя члены сказа.

Я хачу сказаць пра сваю вёсачку некалькі добрых, цёплых слоў.

Некалі мая вёсачка славілася сваімі лясамі, лугамі, балотамі. Улетку людзі хадзілі па грыбы, ягады, арэхі. На лугах пасвіліся каровы, коні, авечкі. Балоты поўніліся буслами, качкамі.

Знаёмыя, родныя, дарагія мясціны я ніколі не забуду. *Паводле А. Казлова*

Раскажыце пра сучасную вёску, ужываючы сказы з аднароднымі членамі.

**81.** Прачытайце сказы. Вызначце аднародныя члены сказа.

1. Белы снежань мяккім пухам апрануў палі і лу**г**. *(П. Панчанка)* 2. На ніву **з**жатую, пустую кладзецца ўначы туман. *(Н. Арсеньева)* 3. Лес пахне баравікамі, падасінавікамі, сырае**ж**камі. *(Б. Сачанка)* 4. Чалавек бярэ ад прыроды душэўнасць, ласку, мудрасць. *(Я. Скрыган)*

- Запішыце сказы. Падкрэсліце аднародныя члены сказа.
- Растлумачце напісанне выдзеленых літар у словах.

**82.** Спішыце. Падкрэсліце аднародныя члены сказа. Якія знакі прыпынку ставяцца паміж аднароднымі членамі сказа?

1. Сады, палеткі, агароды і лясы густыя даюць працоўнаму народу свае плады з красой яскравай. *(У. Дубоўка)* 2. Родзіць буйна наша поле, сады нашы, агароды. *(Я. Купала)* 3. Буйное, густое зарадзіла жыта. *(П. Броўка)* 4. Усход жыве, гарыць, палае, слупы-праменні падымае. *(Я. Колас)*

- Падбярыце аднакаранёвыя словы: *колас* — … .



Аднародныя члены сказа могуць быць звязаны паміж сабой інтанацыяй пералічэння або словам ***і***. Паміж аднароднымі членамі сказа, якія звязаны інтанацыяй пералічэння, ставіцца коска: *Квітнеюць гарады, вёскі*.

Коска не ставіцца, калі два аднародныя члены сказа звязаны словам ***і***: *квітнеюць гарады і вёскі*.

**83.** Прачытайце. Як звязаны паміж сабой аднародныя члены сказа: інтанацыяй ці словам ***і***?

Аднаўляецца жыццё ў нашых гарадах і вёсках. Па шырокіх вуліцах імчаць аўтобусы тралейбусы трамваі. Кожны дзень яны развозяць на работу і ў школы тысячы людзей.

Сучасныя вёскі пераўтварыліся ва ўтульныя светлыя гарадкі. Будуюцца жылыя дамы магазіны вакзалы стадыёны. У хаты вяскоўцаў праведзены газ вада электрычнасць. Дзіцячым смехам напоўнены школы і садкі. *З часопіса «Вясёлка»*

● Вызначце словы, з якімі звязаны аднародныя члены сказа.

● Выпішыце аднародныя члены сказа разам са словамі, з якімі яны звязаны.

Узор: *аднаўляецца* (дзе?) *у гарадах, вёсках, пасёлках, ...*

**84.** Прачытайце сказы. Вызначце аднародныя члены сказа.

1. Сняжынкі садзіліся на рукі на твар. *(І. Шамякін)* 2. Радуюць сэрца збожжа і травы. *(П. Броўка)* 3. Лётаюць сыплюцца зоркі-сняжынкі. *(Я. Журба)* 4. Каласіцца на палетку жыта і пшаніца. *(К. Крапіва)*

● Спішыце. Пастаўце, дзе трэба, коскі паміж аднароднымі членамі сказа.



**85.** Прачытайце. Вызначце аднародныя члены сказа.

Родны край! Ты заўсёды ў маім сэрцы. Я люблю твае прасторы г***а***рады вёскі. Кавалкамі чыстага неба сінеюць ***а***зёры рэкі. Мне знаёмы твае сц***я***жынкі

ля**я**сы п**а**лі. Журавінавая квецень вабіць мае думкі зрок слых. Я ўдыхаю пахі духмянага сена і чаб**а**рку. І ўсё люба дорага мне на зямлі маіх бацькоў. *Паводле Т. Хадкевіча*

- Запішыце тэкст і пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку паміж аднароднымі членамі сказа.
- Растлумачце напісанне выдзеленых літар у словах.

**86.** Прачытайце. Устанавіце сувязь паміж аднароднымі членамі сказа. У якіх выпадках паміж аднароднымі членамі сказа не ставіцца коска?

Летам у вёсцы ўсё зелянела, цвіло, налівалася сокам. А цяпер зусім іншы малюнак. Зніклі на лузе краскі, пчолкі, матылькі. Там толькі стаяць пузатыя стагі сена.

Зжата і звезена збажына. Выкапана бульба. Не прыбраны толькі буракі, морква, капуста.

Раніцай не чуваць спеваў птушак. Яны ўжо збіраюцца ў вырай. Хутка пералётныя птушкі ўздымуцца і пакінуць родныя мясціны.

А колькі цяпер у лесе грыбоў! Хоць ты касой касі. Маслякі, сыраежкі, падасінавікі растуць цэлымі чародкамі. Толькі ягад няма. Ні чарніц, ні суніц, ні ажын цяпер не відаць. Але на імшарынах шмат журавін. Не лянуйся, збірай. Узімку ўсё спатрэбіцца. *Паводле П. Рунца*

- Выпішыце сказы з аднароднымі членамі.

**87.** Прачытайце тэкст. Спішыце першы абзац. Пастаўце, дзе трэба, коскі.

***схі́льнасць***

### Першая выдатная адзнака

Алік не надта схільны да навукі. Але сёння ён не спяшаўся класці ў ранец кнігі дзённік сшыткі. Сшытак па беларускай мове яшчэ ляжаў разгорнуты на парце. Няхай паглядзяць і палюбуюцца сябры! Няхай ведаюць, што ён, Алік, здольны разумны і старанны вучань!

Які гэта быў цудоўны дзень для Аліка! Такіх яшчэ не было. Яму здавалася, што ўсе сябры настаўніца радуюцца яго поспеху. Гэта ж толькі першая выдатная адзнака. А колькі яшчэ такіх адзнак будзе! *Паводле Т. Хадкевіча*

● Якія сказы вымаўляюцца з клічнай інтанацыяй? Які знак прыпынку трэба ставіць у канцы такіх сказаў?

Складзіце вусна 3—4 звязаныя паміж сабой сказы са словам *схільнасць*, каб атрымаўся тэкст.

**88.** Прачытайце тэкст. Устаўце аднародныя члены сказа. У якіх сказах аднародныя члены можна злучыць словам ***і***?

### Лес

Лес знаходзіўся за вёскай. Здалёк ён здаваўся *(ціхі, цёмны)*. Тут раслі высокія *(сосны, яліны)*. Зрэдку трапляліся адзінокія *(бярозы, дубы, ліпы)*.

Пад соснамі гусціўся *(ядловец і чабор)*. Каля самай ракі стаялі старыя *(вольхі і вярба)*. Як тут было *(ціхі і спакойны)*! *Паводле К. Чорнага*

● Запішыце тэкст. Пастаўце, дзе трэба, коскі паміж аднароднымі членамі сказа.



**89.** Спішыце. Пастаўце там, дзе патрэбна, знакі прыпынку паміж аднароднымі членамі сказа.

Змянілася папрыгажэла сучасная вёска. Людзі пабудавалі новыя дамы клуб школу бальніцу і дзіцячы садок. Каля гэтых будынкаў раскінуліся ўтульныя дворыкі пляцоўкі кветнікі.

Уздоўж сцежак растуць каштаны таполі бярозы. Тут у цяньку гуляюць і адпачываюць вяскоўцы. Усё гэта выклікае шчырыя пачуцці да роднай зямлі і людзей. *Паводле Я. Коласа*

**90.** Спішыце і дапоўніце сказы аднароднымі членамі са словам ***і***. Пастаўце, дзе трэба, коскі.

Дзеці любяць чытаць творы Якуба Коласа Янкі Купалы і ... .

Увосень адлятаюць у вырай буслы ластаўкі і ... .

З поля прыбралі жыта ячмень і ... .

● Калі паміж аднароднымі членамі сказа трэба ставіць коску, а калі коска не ставіцца?

**91.** Прачытайце. Назавіце аднародныя члены сказа.

Дні стаялі пахмурныя д..жджлівыя х..лодныя. Дзьмуць халодныя вятры. Людзі спяшаюцца ўбіраць памідоры агуркі цыбулю боб і гарох.

Толькі капуста і буракі засталіся. Іх пазней убіраюць. Ім не страшны восеньскія х..лады і д..жджы.
*Паводле Э. Шыма*

- Запішыце тэкст. Устаўце прапушчаныя літары і растлумачце іх напісанне.
- Пастаўце, дзе трэба, коскі паміж аднароднымі членамі сказа.

***дзьмуць***

**92.** Дапоўніце сказы аднароднымі членамі і запішыце.

Дождж ішоў ... і ... . Раніцай вецер зноў ... і ... шэрыя хмары. На ..., ... стаяць лужыны. А ... і ... не сціхаюць.

Словы для даведкі: *дзень, ноч, дарога, сцежка, падзьмуў, нагнаў, дождж, вецер.*

- Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку паміж аднароднымі членамі сказа.
- Падкрэсліце ў кожным сказе дзейнік і выказнік.



**93.** Прачытайце. Спішыце і падкрэсліце аднародныя члены сказа.

Мне сняцца родныя мясціны.
Мне сніцца наш бацькоўскі дом,

І рэчка чыстая, і луг квяцісты,
І сад зялёны пад маім акном.

● Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку паміж аднароднымі членамі сказа.

**94.** Прачытайце сказы. Як злучаны аднародныя члены сказа?

Падзьмуў ціхі, але халодны вецер. Потым ён не проста дзьмуў, а выў. Страшна было дзецям і дарослым. Раніцай вецер прыціх, але не супыніўся.

● Спішыце, падкрэсліце словы, якія злучаюць аднародныя члены сказа.



Аднародныя члены сказа могуць злучацца словамі ***а, але***.

Перад імі заўсёды ставіцца коска: *Не сілай, а розумам дужы чалавек*.

**95.** Прачытайце і растлумачце сэнс прыказак. Як злучаны аднародныя члены сказа?

1. Дарагі не абед, а прывет.
2. Мурашка маленькая, але дужая.
3. Перш папрацуй, а тады і патанцуй.

4. Поле чакае не слова, а рук.
5. Чалавек дужы не сілай, а розумам.

● Запішыце прыказкі. Падкрэсліце словы, якімі злучаюцца аднародныя члены сказа.

**96.** Прачытайце. Запішыце першыя два абзацы. Падкрэсліце аднародныя члены сказа.

### Адкуль пайшла назва «Целяханы»

Аднойчы ў Пінску з’явіўся атрад незвычайных воінаў. Яны былі ўзброены крывымі мячамі, лукамі, арканамі. Хан са сваім войскам патрабаваў ад пінчан здаць свой горад.

Але народ вырашыў не здавацца, а выступіць супраць заваёўнікаў. І пайшлі да Пінска людзі з Турава, з Давыд-Гарадка, з усіх ваколіц.

І вось сышліся пінчане і мангола-татарская арда. І пачаўся скрыгат, стук, свіст, хрып. Сякуць, колюць чужынцаў пінскія людзі. Павярнулі мангола-татары коней — і наўцёкі. Сам хан у тым баі быў забіты.

На месцы, дзе была бітва, вырас гарадок. Яму далі назву «Целяханы» ад слоў «цела хана». Там, кажуць, пахаваны хан. *Паводле В. Вольскага*

● Ці ведаеце вы, адкуль пайшлі назвы Мінск, Магілёў, Салігорск, Белавежская пушча? Адкуль пайшла назва вашай вёскі (горада)?



**97.** Прачытайце тэкст. Вызначце тэму і асноўную думку.

У садзе расце рабіна. Асабліва прыгожая яна не летам а ўвосень. У гэты час паспяваюць ягады. Цяпер яны яркія чырвоныя але горкія. Вісяць гронкі ягад аж да самай зімы. Зімой ягады рабіны робяцца сакавітымі і салодкімі. Імі любяць ласавацца снегіры сініцы шчыглы. *Паводле Р. Ігнаценкі*

- Спішыце і пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку паміж аднароднымі членамі сказа.
- Апошні сказ разбярыце па членах сказа.
- Да слова *ягады* падбярыце аднакаранёвыя словы. Разбярыце іх па саставе.

**98.** Прачытайце сказы з аднароднымі членамі. Падбярыце словы, якія могуць іх паясняць.

У лесе растуць ... сосны, ... бярозкі, ... дубы.
На лугах квітнеюць ... рамонкі, ... васількі, ... дзьмухаўцы.
У полі растуць ... бульба, ... морква.

Словы для даведкі: *высокія, магутныя, маладыя, сінія, жоўтыя, белыя, салодкая, буйна́я.*

- Запішыце сказы. Устанавіце сувязь слоў у сказах па пытаннях.

**99.** Складзіце і запішыце сказы з аднароднымі членамі. Падкрэсліце паясняльныя словы пры аднародных членах сказа.

бабуля, у, казкі, расказваць, пра, баязлівы, хітры, злы, ліса, заяц, воўк

людзі, спяваць, песні, пра, родны, дарагая, верны, мама, край, сябры

дзеці, чытаць, апавяданні, пра, цікавыя, незвычайныя, займальныя, здарэнні, падзеі, падарожжы

- Вызначце аснову ў кожным сказе.

**100.** Прачытайце, назавіце аднародныя члены сказа. Якія словы іх паясняюць?

### Беларускія лясы

Паміж хлебных ніў,квяцістых паплавоў, топкіх балот знаходзіцца царства лясоў. Па ўсёй Беларусі параскіданы маладыя сасны́кі, старыя бары і нечапаныя пушчы.

У лесе пахне жывучай сырасцю, верасам і смалой. Назойлівыя камары, звонкагалосыя птушкі пахаваліся ад летняй спёкі.

Кожны беларус любіць паўночныя сасны́кі, змрочныя ельнікі, зараснікі ляшчыны, паўднёвыя дубовыя і бярозавыя гаі. *Паводле У. Караткевіча*

- Спішыце. Падкрэсліце паясняльныя словы пры аднародных членах сказа.



**101.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Пастаўце знакі прыпынку паміж аднароднымі членамі сказа. Падкрэсліце, калі ёсць, паясняльныя словы пры аднародных членах сказа.

Багатая шчодрая прыйшла пара. Асенні лес апрануў залацістае ўбранне падрыхтаваў для ўсіх падарункі. Стракацяць імшарыны беланогімі сырае..камі чырвонымі падасінавікамі рыжымі баравікамі. Паспелі лясныя яблыкі дзікія грушы. Зімой, як паляжаць, яны становяцца смачныя сало..кія. Сыплюцца жоўтыя арэхі-лузанчыкі ва..кія жалуды, як дож.., толькі калатні. *Паводле Б. Сачанкі*

- Растлумачце выразы *беланогія сыраежкі, арэхі-лузанчыкі*.

**102.** Прачытайце. Вызначце аднародныя члены сказа. Назавіце паясняльныя словы пры аднародных членах сказа.

Ціхімі сцяжынкамі ходзіць па прыбраных палях, па скошаных лугах, па маўклівых лясах залатая восень. Яна садзіцца на жоўтыя бярозы, чырвоныя клёны, бурыя асінкі. Часам правядзе восень рукой па дрэвах, і закружаць у паветры жоўтыя лісточкі. *Паводле К. Чорнага*

- Запішыце тэкст. Падкрэсліце аднародныя члены сказа разам з паясняльнымі словамі.

**103.** Прачытайце. Як звязаны паміж сабой аднародныя члены сказа?

## Старыя дубы

На беразе Нёмана раскінуўся цэлы гай маладых і старых дубоў. Такія дубы цяпер рэдка дзе ўбачыш. Даўнія, але яшчэ магутныя старыя дубы моцна стаяць і ахоўваюць маладыя дубкі. Праходзяць сваёю чарадою зімы і леты. Дубам не страшны ні час, ні холад, ні спякота. Яны ўсё сцерпяць і перажывуць. *Паводле Я. Коласа*

- Спішыце. Падкрэсліце словы, якімі злучаюцца аднародныя члены сказа.

**104.** Спішыце. Пастаўце, дзе трэба, коскі паміж аднароднымі членамі сказа. Падкрэсліце паясняльныя словы пры аднародных членах сказа.

## Трагедыя Хатыні

У Хатыні адбылося цяжкае гора трагедыя. Яна на вякі захаваецца ў людской памяці і ў сэрцы кожнага чалавека.

Звоняць званы Хатыні. Звоняць над спаленымі хатамі над лёсам людзей. Яны сімвалізуюць не толькі жалобу але і мужнасць гераізм славу беларускага народа.

Кожны чалавек павінен берагчы мір працу і спакой на зямлі. Толькі мір праца і дружба робяць жыццё шчаслівым. *Паводле І. Шамякіна*

- Якая асноўная думка гэтага тэксту?



**105.** Спішыце. Падкрэсліце словы, якія звязваюць аднародныя члены сказа.

## Летні дзень

Такія летнія дзянькі бываюць толькі на поўдні Беларусі.

Сонца свеціць ярка, а не пячэ. Лішак яго цяпла паглынаюць густыя лясы, спакойныя рэкі і шырокія палі. Усё навокал жыве і дыхае. *Паводле Я. Маўра*

- Назавіце паясняльныя словы пры аднародных членах сказа. Для чаго яны ўжываюцца?
- Які гэта тэкст: апісанне ці апавяданне? Назавіце яго часткі.

**106.** Прачытайце. Як звязаны паміж сабой аднародныя члены сказа?

Мае тата і мама будуюць дамы, школы, дзіцячыя садкі. Мама — кранаўшчыца, а тата працуе ў брыгадзе муляраў*. І не толькі мулярам ён можа працаваць, але і цесляром, і слесарам, і зваршчыкам. Мама жартам кажа, што яны ўдваіх маглі б пабудаваць увесь дом.

Я шмат разоў быў і ў таты, і ў мамы на рабоце. Тата мяне вадзіў і паказваў працу і мантажнікаў*, і сантэхнікаў, і электрыкаў. *Паводле М. Герчыка*

- Спішыце, падкрэсліце словы, якія злучаюць аднародныя члены сказа.

**107.** Запішыце сказы. Пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку паміж аднароднымі членамі сказа.

1. І сэрцы і воля і думы народа злучыліся ў плыні адной. *(Я. Колас)* 2. Пасля зімы рака дыхнула паднялася паплыла. *(І. Лужанін)* 3. Час настаў нялёгкі але вясёлы. *(І. Шамякін)* 4. А ў нас цвітуць яблыні грушы вішні. *(П. Панчанка)*

- Разбярыце па членах сказа.
- Якую ролю ў сказе выконваюць аднародныя члены сказа?

***да пабачэ́ння***

**108.** Спішыце. Пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку паміж аднароднымі членамі сказа і растлумачце іх. Якімі часцінамі мовы з'яўляюцца аднародныя члены сказа?

## Палёт да Млечнага Шляху

Самае цяжкае было зацягнуць на гарышча пыласос вадасцёкавую трубу. Віця і Косцік зусім выбіліся з сіл. Затое цяпер гарышча было падобнае на сапраўдны касмічны карабель. Была тут і зорная карта і компас і гадзіннік і электрычны ліхтарык і нават самаробны тэлескоп*. Карабель быў гатовы ляцець да зорак да іншых планет.

Хлопчыкі зачынілі люк уключылі рухавік. Да пабачэння, зямля. Карабель падымаецца над хатамі над лесам над полем і рэчкай. І вось мы мінаем

і Месяц і Марс і Юпітэр і Сатурн. Наперадзе нас чакае Млечны Шлях. *Паводле П. Васючэнкі*

Колькі абзацаў у тэксце? Дайце загаловак кожнаму абзацу і складзіце план. Вусна перакажыце тэкст.

- Растлумачце напісанне слоў з вялікай літары.



**109.** Прачытайце сказы. Назавіце аднародныя члены сказа.

1. І здаецца зноўку — еду я дадому пераведаць родных, блі***з***кіх, д***а***рагіх. *(П. Трус)* 2. На канцэрт у доме культуры сабраліся старыя і малыя, хлопцы і дз***я***ўчаты. *(А. Кулакоўскі)* 3. Ціха, павольна цячэ спакойная ***П***рыпяць. *(Я. Колас)*

- Запішыце сказы. Растлумачце напісанне выдзеленых літар у словах.

**110.** Спішыце і пастаўце, дзе трэба, коскі паміж аднароднымі членамі сказа.

### Настаўнік

Больш за ўсё Рыгорка любіць гуляць у школу. Яго вучні не дужа старанныя і паслухмяныя. Кот Рыжык не хоча вучыцца а заўсёды дрэмле на ўслоне*. Сабака Бобік на адным месцы не сядзіць а заглядвае ў кожны куточак усё абнюхвае. Адзін гумавы слон стаіць спакойна але навукі не разумее. Клас не з лёгкіх. І настаўнік хоць малы але цярплівы.

Ён паказвае і расказвае і чытае і піша. Рыгорка не толькі вучыць але і сам вучыцца. *Паводле Д. Слаўковіча*

● Знайдзіце і прачытайце сказы, у якіх аднародныя члены звязаны словам ***і***.

**111.** Разгледзьце малюнкі. Складзіце апавяданне. Выкарыстоўвайце сказы з аднароднымі членамі. Раскажыце.

**Мой дзень**




● Прачытайце план. Складзіце па пунктах сказы з аднароднымі членамі і запішыце.

П л а н

1. Мая раніца.
2. У школе.
3. Хатнія справы.
4. Любімыя заняткі.
5. Спартыўныя гульні.

Памятка!

**Як характарызуецца сказ?**

1. Вызначыць:

- Які сказ па мэце выказвання? (апавядальны, пытальны або пабуджальны)
- Які сказ па інтанацыі? (клічны або няклічны)

2. Назваць дзейнік, выказнік.

3. Устанавіць, ці ёсць у сказе аднародныя члены сказа.

**112.** Прачытайце. Вызначце аднародныя члены сказа. Растлумачце знакі прыпынку пры аднародных членах сказа.

1. Цябе чакаюць сцежкі і добрыя ўсмешкі, лугі, лясы, палі і шчасце на зямлі. *(С. Грахоўскі)* 2. Жыве, працуе мой народ і ў снежань, і ў май. *(А. Русак)* 3. Жыта, авёс, бульбу, капусту засяваюць, садзяць на той глебе тлустай. *(Я. Купала)*

- Запішыце сказы. Разбярыце па членах сказа.



**113.** Прачытайце. Замяніце некалькі сказаў адным з аднароднымі членамі.

1. Кожную раніцу дзеці не толькі робяць зарадку. Кожную раніцу дзеці мыюцца халоднай вадой. Кожную раніцу дзеці чысцяць зубы.

2. Заняткі спортам загартоўваюць не толькі арганізм. Заняткі спортам загартоўваюць характар.

3. Чалавек славіцца не золатам. Чалавек славіцца розумам.

4. Дзеці стомленыя вярнуліся з лесу. Дзеці задаволеныя вярнуліся з лесу.

- Сказы з аднароднымі членамі, якія вы склалі, запішыце.
- Разбярыце па членах сказа.

### ПРАВЕРЦЕ СЯБЕ

1. Якія члены сказа называюцца аднароднымі?
2. Як звязваюцца паміж сабой аднародныя члены сказа?
3. Перад якімі словамі пры аднародных членах сказа заўсёды ставіцца коска?

# СЛОВА

## НАЗОЎНІК

**Успомніце!**

○ Што абазначаюць назоўнікі? Вызначце, да якіх часцін мовы адносяцца словы: *зіма — зімовы — зімаваць*.

○ Якога роду бываюць назоўнікі? Вызначце род назоўнікаў шляхам падстаноўкі слоў ***ён (мой), яна (мая), яно (маё)***: *вучань, сшытак, надвор'е, настаўніца, сонца, акно*.

○ Як змяняюцца назоўнікі?

**114.** Падбярыце і ўстаўце ў сказы прыметнікі з супрацьлеглым значэннем. Як яны спалучаюцца з назоўнікамі?

1. Дзень ..., а ноч ... . 2. Зіма ..., а лета ... . 3. Пер'е ..., а камень ... . 4. Бусел ..., а ластаўка ... . 5. Мёд ..., а цыбуля ... .

Словы для даведкі: халодны — цёплы, светлы — цёмны, салодкі — горкі, вялікі — малы, лёгкі — цяжкі.

- Запішыце сказы і вызначце род назоўнікаў.

**115.** Пастаўце патрэбныя канчаткі і запішыце. Вызначце род назоўнікаў.

Добр.. дзень! Добр.. раніцы! Добр.. вечар! Сёння добр.. надвор'е.

Добр.. ночы. Добр.. здароўя. Добр.. дня. Добр.. настрою.

- Калі трэба ўжываць такія звароты?

**116.** Падбярыце да назоўнікаў прыметнікі. Запішыце і абазначце род назоўнікаў.

бяроза ..., сонца ..., дзень ..., вецер ..., ноч ..., лес ..., вада ..., надвор'е ..., рака ..., поле ..., жыта ..., дуб ..., балота ..., луг ..., сад ..., дарога ... .

- Складзіце і запішыце 2—3 сказы з гэтымі словазлучэннямі (на выбар). Разбярыце па членах сказа.



**117.** Змяніце словы, што ў дужках, і запішыце тэкст. Абазначце род назоўнікаў.

*(Невялікі)* вёсачка з'явілася перад м**а**імі в**а**чамі. З аднаго боку да яе падступаў *(густы)* лес, а з другога было *(шырокі)* поле.

У вёсцы толькі адна *(шырокі і доўгі)* вуліца. Каля м**а**ёй хаты ўжо вырасла *(высокі)* бяроза. *(Драўляны)* хата, *(вялікі)* двор, *(стары)* сад нагадвалі пра *(радасны)* дз**я**цінства.

*(Мой родны)* вёсачка амаль не змянілася. Вось толькі ў канцы вуліцы з'явілася *(школьны)* сядзіба.
*Паводле І. Шамякіна*

- Якая асноўная думка тэксту?
- Растлумачце напісанне выдзеленых літар у словах.

**118.** Прачытайце сказы. Вызначце лік назоўнікаў і прыметнікаў. Пастаўце назоўнікі з прыметнікамі ў множным ліку і запішыце.

У зайца *(доўгае вуха)*.
У вожыка *(калючая іголка)*.
У савы *(вялікае вока)*.
У мядзведзя *(дужая лапа)*.
У лася *(вялікі рог)*.
У ваўка *(востры зуб)*.

- Складзіце два сказы пра жаваранка і бусла. Запішыце.

**119.** Прачытайце і адгадайце загадкі. Вызначце лік назоўнікаў.

1) Белае поле, а на ім чорныя авечкі пасуцца.





2) Залатое кола па небе коціцца.



3) Броўкі беленькія, а вочкі жоўценькія.

**120.** Прачытайце сказы. Якія назоўнікі не змяняюцца па ліках?

1. Даставайце, дзеці, санкі, пойдзем зіму сустракаць.
2. Бабуля надзявае акуляры і пачынае чытаць дзецям казкі.
3. У мамінай скрынцы ляжаць ніткі, іголкі, нажніцы.
4. Піце, дзеткі, малако, будзеце здаровы.
5. Пчолкі збіраюць з кветак салодкі мёд.

- Запішыце сказы. Падкрэсліце назоўнікі, якія па ліках не змяняюцца.



Некаторыя назоўнікі ўжываюцца толькі ў адзіночным або толькі ў множным ліку. Яны па ліках не змяняюцца.



**121.** Запішыце верш. Вызначце лік назоўнікаў.

Зашуміць трава густая.
Кветкі ў лузе засм**я**юцца.
В**я**сна прыйдзе маладая.
Усюды песні пан**я**суцца.

*Я. Колас*

- Разбярыце сказы па членах сказа.
- Растлумачце напісанне выдзеленых галосных.

## Склон назоўнікаў



Склон назоўніка паказвае на сувязь яго з іншымі словамі ў сказе.

У беларускай мове шэсць склонаў.

**Назоўны** абазначае назву прадмета (*гэта* х т о? або *гэта* ш т о?).

**Родны** абазначае адсутнасць або прыналежнасць прадмета (*няма* к а г о? ч а г о? або а д к а г о? ч а г о?).

**Давальны** звязаны з дзеясловам «даць» (*даць* к а м у? ч а м у?).

**Вінавальны** звязаны з дзеясловамі вінаваціць, бачыць (*вінаваціць* к а г о? *бачыць* ш т о?).

**Творны** паказвае на прыладу, з дапамогай якой адбываецца дзеянне, або на сумеснае дзеянне (*рабіць* з к і м? *ствараць* ч ы м?).

**Месны** паказвае на месца дзеяння (*знаходзіцца* п р ы к і м? н а ч ы м?).

**122.** Прачытайце і складзіце сказы. Запішыце.

*(Настаўнік, вучань)* задаў пытанне.
*(Настаўнік, вучань)* адказаў на пытанне.
*(Настаўнік, вучань)* звярнуўся з пытаннем.

- Вызначце склон назоўнікаў (гл. табліцу на форзацы).
- Падкрэсліце галоўныя члены сказа.

**123.** Прачытайце назвы склонаў. Змяніце назоўнікі *сябар, кніга* па склонах.

| | ***сябар***☐ | ***кніг***[*а*] |
|---|---|---|
| Н. | *гэта* х т о? | *гэта* ш т о? |
| Р. | *пайсці* д а  к а г о? | *без* ч а г о? |
| Д. | *даць* к а м у? | *даць назву* ч а м у? |
| В. | *убачыць* к а г о? | *бачу* ш т о? |
| Т. | *ісці* з  к і м? | *даражыць* ч ы м? |
| М. | *сказаць* а б  к і м? | *вучыцца* п а  ч ы м? |

● Запішыце. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў у кожным склоне.

**124.** Запішыце сказы і вызначце склон назоўнікаў па пытаннях.

1. Гэта мой родны (ш т о?) край.
2. Няма лепшай (ч а г о?) вадзіцы, як з роднай (ч а г о?) крыніцы.
3. Аддам (ч а м у?) Радзіме свой (ш т о?) талент і сваю (ш т о?) любоў.
4. Бачу (ш т о?) дом свой, родныя (ш т о?) мясціны.
5. Сваімі (ч ы м?) рукамі ствараю (ш т о?) багацце і (ш т о?) славу.
6. У (ч ы м?) душы і (ч ы м?) сэрцы знаходзіцца (ш т о?) боль мой і (ш т о?) гонар.

Рм Адзін са сказаў выберыце ў якасці тэмы свайго апавядання. Прыдумайце яго і раскажыце.

**Памятка!**

Для таго, каб вызначыць склон назоўніка, трэба:
1) знайсці слова, з якім звязаны назоўнік;
2) ад гэтага слова паставіць склонавае пытанне да назоўніка;
3) устанавіць ролю назоўніка ў сказе (дзейнік або даданы член сказа);
4) па пытанні вызначыць склон назоўніка.

У з о р: *ганаруся* (к і м?) *бацькамі* (Т. с.).



**125.** Спішыце. Абазначце склон назоўнікаў.

### Мая мама

Я люблю сваю маму. Мая мама самая лепшая і добрая на свеце. Я прытуляюся да мамы, абдымаю за плечы, прыхінаю сваю галаву. Мама гладзіць мяне па галаве, цалуе ў вочы. Я шапчу ёй на вуха: «Мая дарагая мамачка». *Паводле У. Паўлава*

- Падкрэсліце аднародныя члены сказа.
- Як звязаны аднародныя члены сказа?
- Якія аднародныя члены сказа маюць паясняльныя словы?

**126.** Прачытайце. Ці змяняюцца назоўнікі па склонах?

Выйшаў з метро, селі ў таксі, перадалі па радыё, быў у кіно, апрануўся ў паліто, іграе на піяніна, працуе ў дэпо, член журы.

- Складзіце сказы з гэтымі словазлучэннямі і запішыце.



Некаторыя назоўнікі (*маці, метро, кіно, радыё* і інш.) не змяняюцца па склонах.

**127.** Устанавіце сувязь назоўнікаў з дзеясловамі і складзіце сказы. Вызначце склон назоўнікаў.

Ехалі ў *(аўтобус, метро)*, пайшоў у *(шапка, паліто)*, быў у *(тэатр, кіно)*, іграў на *(гармонік, піяніна)*.

● Запішыце сказы і падкрэсліце назоўнікі, якія не змяняюцца.

**128.** Прачытайце прымаўкі. Устанавіце сувязь назоўніка ***маці*** з іншымі словамі ў сказах. Ці змяняецца гэты назоўнік?

1. Другой *(маці)* не будзе.
2. Родная *(маці)* не пакіне свайго дзіцяці.
3. У дзіцяці адна *(маці)*.
4. Няма *(маці)* — цяжка дзіцяці.
5. Пры сонцы цёпла, а пры *(маці)* добра.

● Запішыце прымаўкі.

 Складзіце вуснае апавяданне на тэму «Мая маці самая лепшая».

 **129.** Прачытайце сказы. Вызначце склон назоўнікаў.

1. На зямлі нашай светлай добра жыць і любіць. *(П. Панчанка)* 2. Я хадзіла па суніцы і піла ваду з крыніцы. *(П. Пруднікаў)* 3. Сонца стукае ў акенца, усміхаецца Аленцы. *(Г. Казлова)* 4. Прыпыніліся ля вёскі ліпы, клёны і бярозкі. *(М. Сазончык)*

- Запішыце сказы.
- Падкрэсліце аднародныя члены сказа. Як яны звязаны паміж сабой?

**130.** Прачытайце. Першую частку верша запішыце па памяці. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў адзіночнага ліку, вызначце род, лік і склон (вусна).

Што такое Бацькаўшчына *(адз. л., ж. р., Н. с.)*,
знаеш?
Гэта рэчка,
сцежачка лясная,
гэта ў лузе залатая пчолка,
а ў вачах тваіх —
вясёлка.
Бацькаўшчына —
гэта дом твой,
школа,
гэта песні,
што звіняць наўкола,
гэта тата твой і мама,
і сябры твае таксама.

*А. Касцецкі*

- Да слова *Бацькаўшчына* падбярыце блізкія па значэнні словы і запішыце.

**131.** Прачытайце. Вызначце род і лік назоўнікаў.

Жытнёвае поле, лясы і азёры,
крынічанька ў лузе і ў небе жаўрук —
услухайся толькі, усё тут гаворыць:
— Люблю цябе, Белая, Белая Русь.

Ну як не любіць тыя хаты ля гаю,
ля сініх азёр і палёў залатых,
дзе хлебам і соллю сяброў сустракаюць
і з песняй праводзяць, як родных сваіх.

*У. Карызна*

- Выпішыце пабуджальны сказ.

**132.** Прачытайце і вызначце межы сказаў.

### Птушыны гарадок

Аднойчы мама павяла Аленк.. да сябе на работу тут быў сапраўдны птушыны гарадок Аленк.. ніколі не бачыла столькі курэй у прасторным памяшканні стаялі клеткі з курамі корм падаваўся па транспарцёрах* у суседнім пакоі машыны раскладвалі яйкі па ячэйках латкоў ноччу Аленц.. прысніўся птушыны гарадок. *Паводле І. Чаплавоцкай*

- Падзяліце тэкст на часткі.
- Запішыце. Устаўце патрэбныя канчаткі назоўніка *Аленка*, вызначце яго склон.



**133.** Прачытайце і спішыце. Вызначце склон назоўнікаў адзіночнага ліку, выдзеліце іх канчаткі.

### Бярозка

Яе прынеслі дзеці з гаю
і пасадзілі, каб расла.
Вясёлая і трапяткая
стаіць бярозка ля сяла.
Гляджу я на яе, дзіўлюся —
і свой благаслаўляю лёс:
я нарадзіўся ў Беларусі
між белых казачных бяроз.

*К. Жук*

- Падкрэсліце галоўныя члены другога сказа.
- Якая асноўная думка верша? Выкажыце яе словамі аўтара.

## Змяненне назоўнікаў па ліках і склонах (скланенне)

**134.** Прачытайце сказы. Як змяняецца назоўнік у кожным сказе?

1. Краіна мая дарагая! Добра жыць у роднай краіне. Розныя краіны павінны жыць дружна.
2. Вецер не сціхаў. Пад ветрам усё шумела. Дзьмуць халодныя вятры.
3. Настала ноч. Не трэба баяцца ночы. Зімой ночы доўгія.

- Запішыце сказы, абазначце лік і склон назоўнікаў.



**Назоўнікі змяняюцца па ліках і склонах (скланяюцца).**

**135.** Разгледзьце табліцы. Параўнайце склонавыя канчаткі назоўнікаў. Чаму назоўнікі з рознымі канчаткамі можна падзяліць на тры групы (скланенні)?

| **1-е скланенне**<br>ж. р.<br>***(-а, -я)*** | **2-е скланенне**<br>м. р. (нулявы канчатак),<br>н. р. ***(-а, -е, -о)*** |
|---|---|
| Н. *птушк[а], песн[я]* | *брат□, дом□, пол[е],* |
| Р. *птушк[і], песн[і]* | *брат[а], дом[а], пол[я]* |
| Д. *птушц[ы], песн[і]* | *брат[у], дом[у], пол[ю]* |
| В. *птушк[у], песн[ю]* | *брат[а], дом□, пол[е]* |
| Т. *птушк[ай], песн[яй]* | *брат[ам], дом[ам], пол[ем]* |
| М. *на птушц[ы],*<br>*у песн[і]* | *пры брац[е], у дом[е],*<br>*у пол[і]* |

| **3-е скланенне**<br>ж. р. (нулявы канчатак) | |
|---|---|
| Н. | *мыш□, восень□* |
| Р. | *мыш[ы], восен[і]* |
| Д. | *мыш[ы], восен[і]* |
| В. | *мыш□, восень□* |
| Т. | *мышш[у], восенн[ю]* |
| М. | *на мыш[ы], аб восен[і]* |



Назоўнікі ў адзіночным ліку падзяляюцца на тры скланенні.

Да **1-га скланення** адносяцца назоўнікі жаночага роду з канчаткамі ***-а, -я*** ў назоўным склоне: *прац*[*а*], *песн*[*я*], *краін*[*а*].

Да **2-га скланення** адносяцца назоўнікі мужчынскага роду з нулявым канчаткам і ніякага роду з канчаткамі ***-а, -е, -о***: *стол*□, *край*□, *неб*[*а*], *пол*[*е*], *акн*[*о*].

Да **3-га скланення** адносяцца назоўнікі жаночага роду з нулявым канчаткам: *ноч*□, *радасць*□, *восень*□.

Памятка!

Каб вызначыць скланенне назоўніка, трэба:

1) вызначыць род назоўніка;

2) выдзеліць канчатак назоўніка ў назоўным склоне адзіночнага ліку;

3) пры дапамозе табліцы па роду і канчатку вызначыць скланенне.

У з о р: *чытаць **кнігу***; Н. с. — кніг[*а*]: назоўнік жаночага роду, адзіночнага ліку, канчатак ***-а***, 1-е скланенне.

**136.** Вызначце род і выдзеліце канчаткі назоўнікаў (гл. табліцу на форзацы). Да якога скланення адносяцца гэтыя назоўнікі: да 1-га, 2-га або 3-га?

Радасць, **зямля**, сонца, лес, Беларусь, памяць, каляндар, сябар, край, **горад**, вёска, прыгажосць, квет-

ка, Свіслач, Прыпяць, Нарач, газета, часопіс, **акно**, цень, конь, вяршыня, кніга, вільгаць, **печ**, песня.

● Праскланяйце выдзеленыя назоўнікі. Запішыце і выдзеліце склонавыя канчаткі.



Запомніце, што назоўнікі *медаль, стэп, цень, сабака, боль, палын, подпіс, насып, яблык, капыт* у беларускай мове адносяцца да мужчынскага роду, а назоўнікі *жырафа, гусь, таполя* — да жаночага роду.

**137.** Спішыце і выдзеліце канчаткі назоўнікаў. Абазначце склон і скланенне назоўнікаў.

Хадзіць у школу, сядзець за сталом, гуляць у футбол, працаваць на заводзе, жыць у вёсцы, глядзець праз акно, пісаць у сшытку.

● Складзіце некалькі сказаў з гэтымі словамі і запішыце. Разбярыце іх па членах сказа.



**138.** Спішыце і абазначце скланенне назоўнікаў.

1. Горкая праца, ды хлеб ад яе салодкі.
2. На ранняй ралліцы родзіць жыта ды пшаніца, а на позняй ралліцы родзіць лебяда ды мятліца.

3. Жаданая праца як сонца ўзыход.
4. Птушка малая, а карысць ад яе вялікая.

● Растлумачце сэнс прыказак. Падкрэсліце словы з супрацьлеглым значэннем.

**139.** Праскланяйце назоўнікі 1-га і 3-га скланення. Запішыце і выдзеліце склонавыя канчаткі.

| 1-е скланенне (*-а, -я*) | 3-е скланенне (нулявы канчатак) |
|---|---|
| Н. *бабул[я], птушк[а], вад[а], трав[а]* | *гусь□, моладзь□, восень□, Беларусь□* |
| Р. | |
| Д. | |
| В. | |
| Т. | |
| М. | |

● Дакажыце, што назоўнікі 1-га і 3-га скланенняў змяняюцца па-рознаму.

**140.** Прачытайце. Вызначце, да якога скланення адносяцца назоўнікі.

З татам разам жнём і косім,
возім лес і гацім гаць*.
А ў вайну,
што смерць прыносіць,
нам не хочацца гуляць.

*І. Гурбан*

● Запішыце верш і выдзеліце склонавыя канчаткі назоўнікаў жаночага роду.

● Знайдзіце і падкрэсліце аднародныя члены сказа. Як яны звязаны паміж сабой?

● Знайдзіце аднакаранёвыя словы і абазначце корань.

**141.** Разгледзьце малюнак. Адкажыце на пытанні, каб атрымалася апавяданне на тэму «Рабіна».



1. Ці падабаецца вам рабіна?
2. Дзе яна расце?
3. Якая яна? Апішыце.
4. Якія птушкі любяць ласавацца чырвонымі ягадамі рабіны?
5. Для чаго людзі саджаюць дрэўцы?

Словы для даведкі: *кучаравая рабіна, пасадзіў пад акном, снегіры, дрэўцы.*

● Запішыце тэкст. Вызначце склон і скланенне назоўнікаў (гл. табліцу на форзацы).



**142.** Пастаўце назоўнікі, што ў дужках, у патрэбным ліку і склоне. Запішыце тэкст.

**Колькі на небе зорак?**

Калі надыходзіць *(вечар)*, на *(неба)* з'яўляюцца самыя яркія *(зорка)*. А сярод *(ноч)* *(зорка)* на *(неба)* становіцца яшчэ больш. Колькі ж іх?

— Некалькі тысяч! — скажа чалавек, які глядзіць на *(неба)*.

— Мільёны! — скажа астраном*, які назірае за зорным *(неба)* у *(тэлескоп)*.

— Шмат мільёнаў! — скажа вучоны, які вывучае *(фотаздымак)* зорнага *(неба)*. *Паводле В. Віткі*

- Разбярыце па саставе словы *зоркі* і *зорны*.

## Змяненне назоўнікаў жаночага роду з канчаткамі *-а, -я* (1-е скланенне)

**143.** Выпішыце назоўнікі жаночага роду з канчаткамі ***-а, -я.*** Выдзеліце аснову і канчатак.

Школа, песня, радасць, вясна, сонца, рэч, дзяўчынка, бібліятэка, Радзіма, моладзь, прыгажосць, дрэва, трава, прамень, Каця, месяц, журавель, гара, вучань, гаспадар, газета, вёска, горад, сяброўка, хлеб, кніга, зямля, планета, паветра, казка, сям'я, памяць, мара.

- Да якога скланення адносяцца гэтыя назоўнікі?
- Складзіце і запішыце 2—3 сказы з назоўнікамі 1-га скланення.

**144.** Спішыце, змяняючы назоўнік, што ў дужках, як патрабуе сэнс. Да якога скланення адносіцца назоўнік *праца*?

1. Дружная *(праца)* — крыніца багацця. 2. Наша шчасце ў сумеснай *(праца)*. 3. Хочаш добра жыць — павінен *(праца)* любіць.

- Вызначце лік і склон назоўніка *праца* ў кожным сказе.
- Растлумачце сэнс прыказак.

**145.** Запішыце табліцу. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў жаночага роду, падкрэсліце аснову.

| | | |
|---|---|---|
| Н. | хто? | *сястра Каця* |
| Р. | у каго? | *у сястры Каці* |
| Д. | каму? | *сястры Каці* |
| В. | за каго? | *за сястру Кацю* |
| Т. | з кім? | *з сястрой (-ою) Кацяй (-яю)* |
| М. | пры кім? | *пры сястры Каці* |
| Н. | што? | *зямля, вада* |
| Р. | чаго? | *зямлі, вады* |
| Д. | чаму? | *зямлі, вадзе* |
| В. | што? | *зямлю, ваду* |
| Т. | чым? | *зямлёй (-ёю), вадой (-ою)* |
| М. | на чым? | *на зямлі, на вадзе* |

- Складзіце 2—3 сказы з назоўнікамі 1-га скланення і запішыце.
- Зрабіце разбор па членах сказа.

**146.** Прачытайце. У якіх склонах ужываецца назоўнік *вада*?

Вясна была ў разгары. Маленькая рачулка ператварылася ў сапраўдную раку з мноствам астравоў і заліўчыкаў. Вадзе не было куды дзецца, і яна затапіла лагчынкі.

Здалёк пад яркім сонцам вада кіпела і пералівалася срэбрам: ішоў нераст рыбы. Крокаў за дзесяць ад невялічкага астраўка ў вадзе стаяў мядзведзь. Пярэднія растапыраныя лапы з вострымі крывымі кіпцюрамі былі ўжо занесены над вадой. Мішка пільна ўглядаўся туды, каб знайсці вялікую рыбіну. Раптам ён спрытна выкінуў абедзве лапы ў ваду і тут жа выпрастаўся. У лапах была заціснута вялікая рыбіна. Мядзведзь выйшаў з вады на востраў. Там ужо была ладная серабрыстая горка рыбы. *Паводле В. Патданіка*

● Выпішыце назоўнік *вада* ў розных склонах разам з дзеясловамі, выдзеліце канчаткі.

***лагчы́на***



**147.** Складзіце і запішыце сказы. Змяніце выдзеленыя назоўнікі, выдзеліце канчаткі і вызначце склон (гл. табліцу на форзацы).

Ірынка, ад, недалёка, **ферма**, жыве, жывёлагадоўчай

працуе, там, **даярка**, яе, мама

ходзіць, дзяўчынка, часта, пасля, на, заняткаў, у, школа, **ферма**



яна, **мама**, дапамагае, жывёл, даглядаць
мама, аднойчы, ёй, дазволіла, **карова**, падаіць
спадабалася, **дзяўчынка**

- Устанавіце сувязь выдзеленых слоў з іншымі словамі ў сказе. Як яна забяспечваецца?
- Устанавіце сувязь сказаў у тэксце. Якія словы для гэтага вы выкарыстоўвалі?

## Назоўны і вінавальны склоны

**Успомніце!**

- По якіх пытаннях вызначаюцца назоўны і вінавальны склоны назоўнікаў?
- Якое значэнне перадаецца назоўным і вінавальным склонамі назоўнікаў?

**148.** Разгледзьце малюнкі і прачытайце сказ. Пастаўце пытанні да назоўнікаў 1-га скланення. Назавіце канчаткі.



*гэта* к т о?



*гэта* ш т о?



к т о? ***чытае*** ш т о?

**Тан-*я*** чытае **кніг-*у***.

| Н. | В. |
|---|---|
| *гэта* х т о? ш т о? | *бачу* к а г о? ш т о? |
| | пра, па, на, у |
| *Тан*[*я*], *кніг*[*а*] | *Тан*[*ю*], *кніг*[*у*] |
| дзейнік | даданы член сказа |

● Якія канчаткі маюць назоўнікі 1-га скланення ў назоўным і вінавальным склонах?

**149.** Складзіце сказы. Пастаўце назоўнікі ў назоўным і вінавальным склонах. Якія канчаткі пішуцца ў назоўным і вінавальным склонах?

(Х т о?) *(бабуля, мама)* спявае (ш т о?) *(песня, калыханка)*.

(Х т о?) *(Таня, Лена)* расказвае (п р а ш т о?) *(Радзіма, сям'я)*.

(Х т о?) *(Надзя, сястра)* ідзе (к у д ы?) у *(школа, цырульня)*.

(Х т о?) *(Паштальён, дзядзька Антось)* прынёс (ш т о?) *(пасылка)*.

• Запішыце сказы, выдзеліце канчаткі назоўнікаў. Вызначце галоўныя і даданыя члены сказа.

***паштальён***



**У назоўным склоне назоўнікаў 1-га скланення пішуцца канчаткі -*а*, -*я*, у вінавальным — канчаткі -*у*, -*ю*.**

**150.** Спішыце, вызначце склон назоўнікаў жаночага роду, выдзеліце канчаткі. Якія канчаткі пішуцца ў назоўным і вінавальным склонах?

1. Адзін аднаго падтрымліваць — перамогу атрымліваць. Перамога даецца не лёгка.
2. Каб выбіць ляноту, трэба даць работу. Не работа сушыць, а лянота.
3. Зямля — талерка: што пакладзеш, тое і возьмеш. Зямлю не ўгноіш — хлеба не намалоціш.
4. Праца робіць чалавека разумным. Белыя ручкі чужую працу любяць.

• Растлумачце сэнс прыказак.

**151.** Прачытайце. Вызначце склон назоўнікаў жаночага роду.

На выстаўку юннаты*
выносяць экспанаты*:
капусту, рэпу, буракі,
фасолю, моркву, агуркі.
Зірніце на цыбулю!
Яе расціла Юля.

*В. Вітка*

- Запішыце па памяці. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў жаночага роду.



**152.** Прачытайце і пастаўце назоўнікі ў патрэбным склоне. Запішыце тэкст і выдзеліце канчаткі назоўнікаў жаночага роду.

## Школа памочнікаў

Усім вядома, што мама вельмі любіць чыстую *(падлога)*. Чым чысцейшая *(падлога)*, тым больш гэта радуе *(мама)*.

Ёсць два спосабы зрабіць *(падлога)* чыстай. Першы спосаб самы цяжкі — не насмечваць. Гэта наўрад ці ў вас атрымаецца.

Для другога спосабу патрэбна *(мятла)*. Вазьміце *(мятла)* ў правую *(рука)*, а ў левую — *(лапатка)* для смецця. Цяпер шукайце смецце і змятайце яго на *(лапатка)*. Зазірніце пад *(шафа)*, пад стол, пад *(тумбачка)*, пад ложак, пад *(канапа)*.

Цяпер зірніце на *(падлога)*. Добра папрацавалі?

*Паводле М. Чарговай*

- Вызначце асноўную думку тэксту.

**153.** Прачытайце ўрывак з казкі. Ці ведаеце вы яе? Раскажыце, што было далей.

Сеў Іван на каня, тры разы свет абляцеў і на зямлю вярнуўся. Пусціў каня, павесіў торбу на плечы і падаўся дадому. Зайшоў у хату, узяў жалейку ды іграе сабе нейкую песеньку. Разумныя браты дзівяцца: «Бач ты, нічога з ім не сталася!»

Прайшоў дзень. Настала чарга сярэдняга сына на бацькаву магілу ісці. Пачаў ён Івана ўпрошваць:

— Схадзі, братка, і за мяне...

● Выпішыце назоўнікі жаночага роду разам з дзеясловамі. Выдзеліце канчаткі, абазначце склон назоўнікаў.

**154.** Запішыце тэкст. Абазначце склон, карыстаючыся табліцай. Устаўце патрэбныя канчаткі назоўнікаў.

**Галасы беларускіх лясоў**

Звініць у беларускіх лясах птушыная песн.. . На ўсю краін.. гучаць звонкія галасы.

Узначальваюць чароўную сімфоні.. салаўі. Дзесьці ў густых шатах* дрэў кукуе зязюл.. . Села на галінк.. сініц.. і пачала цінькаць. Вухкае вялізная сав.. . Булькае гівал*, быццам каменне кідае ў вад.. . Толькі чорны бусел зашыўся ў чашчоб.. і маўчыць. Гэтая таямнічая птушк.. не падае свайго голасу. Можа, яна крыўдзіцца на каго? *Паводле У. Караткевіча*

● Колькі частак у тэксце? Які гэта тэкст — апісанне ці апавяданне?

**155.** Спішыце. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў жаночага роду, вызначце іх ролю ў сказе.

### Нарыхтуйце корм для птушак!

*по́зні*

Ужо настала позняя восень. Хутка пачнецца зіма. Пара нарыхтоўваць ежу для нашых крылатых сяброў.

Вы ўжо, напэўна, назапасілі зерня. Яго любіць кожная птушка ў зімовую пару. Але і на лясную ягадку знойдуцца ахвотнікі.

Схадзіце ў лес. Там вы ўбачыце і рабіну, і каліну, і бузіну. Кожную гронку акуратна зрэжце нажом і павесьце дома ў сухім месцы. У зімовую бяскорміцу гэта будзе вялікім ласункам для птушак. *Паводле Г. Скрабіцкага*

- Падкрэсліце аднародныя члены сказа. Як яны звязаны паміж сабой?



**156.** Прачытайце. Колькі частак ў тэксце? Размясціце іх у патрэбным парадку. Прыдумайце загаловак.

Раптам падляцела сініц.. і села на аканіц..*. Дзяўчынк.. пашкадавала нечаканую госц.. . Яна адчыніла фортк.. і ўпусціла птушк.. ў пакой.

Надышла халодная зім.. . Пачала яна засыпаць зямл.. снегам, пакрываць рэчк.. лёдам. Загула, закружыла мяцеліц.. .

Ля акна сядзіць Насц.. і назірае, як шалёны вецер замятае сцежк.., узводзіць каля плота снежную гурб.. .

Снежная бур.. хутка скончылася. Насц.. зноў выпусціла птушк.. на вол.. . *Паводле В. Вольскага*

● Запішыце тэкст, вызначце склон назоўнікаў 1-га скланення, устаўце канчаткі (гл. табліцу на форзацы).

## Родны склон

**Успомніце!**

❍ Па якіх пытаннях вызначаецца родны склон назоўнікаў?

**157.** Пастаўце пытанне да назоўнікаў 1-га скланення ў родным склоне. Назавіце канчаткі.



*прытулілася* д а к а г о?

Дачка прытулілася да **мам-*ы***.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Р. | *няма* к а г о?<br>д а к а г о?<br>*многа* ч а г о? | ад, да, для,<br>каля, без | *бабул[і]*<br>*мам[ы]*<br>*вад[ы]* |

**158.** Запішыце і выдзеліце канчаткі назоўнікаў жаночага роду, абазначце склон.

1. Без працы няма багацця.
2. Праўды на базары не купіш.
3. Калі не музы́ка, не бяры скрыпкі ў рукі.
4. Золата здабываюць з зямлі, а веды — з кнігі.
5. Усе веды з азбукі пачынаюцца.

● Растлумачце сэнс прыказак.



У родным склоне назоўнікаў жаночага роду пішуцца канчаткі *-і* пасля мяккіх зычных, *-ы* — пасля цвёрдых.

**159.** Адкажыце на пытанні, выкарыстоўваючы назоўнікі жаночага роду.

1. З чаго мы пачынаем кожны дзень?
2. У каго ласкавыя і пяшчотныя рукі?
3. Адкуль можна даведацца пра ўсё цікавае навокал?
4. Без чаго нельга пражыць?
5. З чаго вырабляюць бензін?

Словы для даведкі: *ранішняя гімнастыка, мама, кніга, вада, ежа, нафта.*

● Запішыце адказы. Вызначце склон назоўнікаў жаночага роду, выдзеліце канчаткі.

● У якіх значэннях ужываюцца назоўнікі роднага склону?

**160.** Змяніце словы ў дужках і запішыце. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў жаночага роду. Вызначце па табліцы роднага склону канчаткі назоўнікаў.

Прыехаў да *(бабуля)*, на беразе *(рака)*, гняздо *(вавёрка)*, спытаў у *(настаўніца)*, кветкі для *(мама)*, падышоў да *(бярозка)*, на краі *(вёска)*, абышоўся без *(дапамога)*, вырабляюць з *(драўніна)*, дом з *(цэгла)*, гасцяваў у *(цётка)*, змагацца супраць *(вайна)*.

● Складзіце і запішыце некалькі сказаў з назоўнікамі ў родным склоне.



**161.** Прачытайце тэкст. У якім склоне трэба ўжываць назоўнікі, што ў дужках?

## Беларуская нафта

Каля *(Рэчыца)* геолагі* шукалі нафту. Паставілі вышку і пачалі з той *(вышка)* заганяць у зямлю сталёвыя трубы. Шмат дзён і начэй дабіраліся да *(нафта)*.

Нарэшце магутны фантан ударыў з *(труба)*. Нафта — каштоўная сыравіна* для народнай *(гаспадарка)*. З *(нафта)* людзі навучыліся вырабляць гаручае для машын, сінтэтычныя валокны*. *Паводле А. Карамык*

● Спішыце. Вызначце па табліцы роднага склону (с. 97) канчаткі назоўнікаў і выдзеліце іх.

## Давальны і месны склоны

**Успомніце!**

- Па якіх пытаннях вызначаюцца давальны і месны склоны назоўнікаў?
- Якое значэнне перадаецца давальным склонам назоўнікаў, а якое — месным?

**162.** Пастаўце пытанні да назоўнікаў 1-га скланення ў давальным і месным склонах. Назавіце канчаткі назоўнікаў. Калі трэба ўжываць назоўнікі ў давальным склоне, а калі — у месным?



*дорыць* к а м у?



*сядзіць* н а ч ы м?

Сын дорыць **мам-*е*** кветкі.
Пчала сядзіць **на кветц-*ы*.**

| Д. | М. |
| --- | --- |
| *даць*<br>к а м у? ч а м у? | *быць*<br>п р ы к і м? н а ч ы м? |
| насустрач, услед, насуперак | пры, аб, на, у |
| падзякаваць *бабул* [*і*]<br>дапамог *сястр* [*ы*]<br>рады *зім* [*е*]<br>даць *дачц* [*э*] | расце на *зямл* [*і*]<br>жыць на *рэчц* [*ы*]<br>жыць пры *мам* [*е*]<br>купацца ў *рац* [*э*] |

● Як адрозніваюцца назоўнікі ў давальным і месным склонах?

● Якія канчаткі маюць назоўнікі жаночага роду ў давальным і месным склонах?

**163.** Прачытайце. Вызначце склон назоўнікаў жаночага роду. Знайдзіце прыказкі, растлумачце іх сэнс.

1. Жыць — Радзіме служыць. Людзі складаюць песні аб Радзіме.
2. Бяжыць Петрык насустрач мамачцы, каб хутчэй абняць і прыхіліцца. Пры сонейку цёпла, пры мамачцы добра.
3. Слёзы бядзе не дапамагаюць. Не пакідай сябра ў бядзе.

● Спішыце. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў жаночага роду, абазначце склон.



У давальным і месным склонах назоўнікаў жаночага роду пасля мяккіх зычных пішуцца канчаткі *-і*, *-е*, пасля цвёрдых — *-ы*, *-э*.

Назоўнікі жаночага роду ў давальным і месным склонах маюць аднолькавыя канчаткі.

**164.** Раскрыйце дужкі і ўстанавіце сувязь слоў. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў жаночага роду, абазначце склон (гл. табліцу на форзацы).

Расказваў *(мама)*, ляжыць у *(шафа)*, прыбраў у *(кватэра)*, глядзеў услед птушынай *(чарада)*, едуць па *(вуліца)*, працуе на *(ферма)*, пазнаў па *(форма)*, радаваўся *(сустрэча)*, песня аб *(вясна)*, выбег насустрач *(машына)*, стаіць пры *(дарога)*, гняздо на *(сасна)*.

● Складзіце і запішыце некалькі сказаў з назоўнікамі ў давальным склоне.



**165.** Складзіце і запішыце сказы. Выдзеленыя назоўнікі ўжывайце ў давальным або месным склоне.

шмат, прысвяцілі, твораў, **прырода, гісторыя,** беларускія, пісьменнікі, сваіх, роднага, краю

аб, **зіма,** і, **вясна,** аб, **старонка,** роднай, Янка Купала, і, Якуб Колас, у, пісалі, вершах

творы, расказваюць, Алены Васілевіч, Ядвігі Бяганскай і, **дружба,** аб, дзяцей

у, **бібліятэка,** знайсці, можна, шмат, кніг, цікавых

● Падкрэсліце ў сказах аднародныя члены. Як яны звязаны паміж сабой?

**166.** Пастаўце склонавыя пытанні да назоўнікаў жаночага роду і дапішыце канчаткі (гл. табліцу на форзацы).

Спадабалася Нін.., падарыў сястр.., дапамог бабул.., падзякаваў мам.., абяцаў настаўніц.., узяў у бібліятэц.., прачытала ў кніз.., расказала сяброўц.., трымае ў руц.. .

● Вызначце склон назоўнікаў жаночага роду.

● Як адрозніваюцца давальны і месны склоны назоўнікаў 1-га скланення?

**167.** Спішыце. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў жаночага роду. Пастаўце да іх склонавыя пытанні і абазначце склон.

З надыходам зімы многія птушкі пакінулі родныя мясціны. Гракі зімуюць у Чэхіі, Славакіі, Румыніі, Венгрыі і Германіі. Шпакі — у Бельгіі, Галандыі і на поўдні Англіі. А жураўлі, буслы і чаплі — у далёкай Афрыцы.

● Падкрэсліце аднародныя члены сказа.

**168.** Прачытайце і адгадайце загадкі.

1. Стаіць у лаз.. на адной наз.. .

2. Па салом.. не шастае, у вадз.. не тоне, у агні не гарыць.

3. Які месяц году пачатак, а зім.. сярэдзіна?

● Запішыце, устаўляючы патрэбныя канчаткі назоўнікаў жаночага роду. Пастаўце пытанні да гэтых назоўнікаў і вызначце склон (гл. табліцу на форзацы).



**169.** Прачытайце і запішыце. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў жаночага роду, пастаўце да іх пытанні і вызначце склон.

Свет пабачыць захацела —
курка з седала зляцела.
Пахадзіла па двары,
тры пакінула пяры.
Верабейку адно —
у гняздзечку выслаць дно.
А другое ластаўцы —
птушцы вельмі ласкавай.
А трэцяе галубіцы,
што любіла тут кружыцца.

*С. Шушкевіч*

## Творны склон

**Успомніце!**

- Па якіх пытаннях вызначаецца творны склон назоўнікаў?
- Якое значэнне перадаецца творным склонам назоўнікаў?
- Якія прыназоўнікі ўжываюцца з творным склонам?

**170.** Пастаўце пытанне да назоўніка 1-га скланення ў творным склоне, назавіце канчаткі.



*мыцца* ч ы м?

Раніцай трэба мыцца халоднай ***вад-ой(-ою)***.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Т. | к і м?<br>ч ы м? | над, за, пад,<br>з, паміж | *з сястр[ой] (-ою)*<br>*пад зямл[ёй] (-ёю)*<br>*перад дарог[ай] (-аю)*<br>*з песн[яй] (-яю)* |

**171.** Прачытайце. Пастаўце пытанні да назоўнікаў жаночага роду ў творным склоне.

1. Вузкаю крывою стужкаю праходзіць між палеткаў вясковая дарога. *(Я. Колас)* 2. Дзе-нідзе палосы далі, істужка за істужкаю, кайма за каймою, сшывалі неба з зямлёю. *(З. Бядуля)* 3. Хмары прайшлі над галавой бліскучым празрыстым краем. Дождж паліў сцяною, і яго шум быў чуваць яшчэ здалёк. З неба адразу секанула вадзяною хваляю. *(І. Мележ)*

● Запішыце сказы. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў жаночага роду ў творным склоне.



У творным склоне назоўнікаў жаночага роду пад націскам пішуцца канчаткі ***-ой(-ою)***, ***-ёй(-ёю)***. Не пад націскам пішуцца канчаткі ***-ай(-аю)***, ***-яй(-яю)***.

**172.** Змяніце назоўнікі жаночага роду па пытаннях і запішыце. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў, пастаўце націск (гл. табліцу на форзацы).

Гутарыць з кім? з *(настаўніца)*, ляцець над чым? над *(зямля)*, капаць чым? *(лапата)*, кружыцца над чым? над *(хата)*, пісаць чым?

*(ручка)*, захапляцца чым? *(музыка)*, ісці з чым? з *(песня)*, ехаць з кім? з *(бабуля)*.

● Якія канчаткі пішуцца ў творным склоне назоўнікаў жаночага роду? Складзіце і запішыце некалькі сказаў з назоўнікамі ў творным склоне (на выбар).



**173.** Прачытайце. Назоўнікі, што ў дужках, пастаўце ў творным склоне (гл. табліцу на форзацы).

Раніца была такая прыўдалая*. Часамі перад *(навальніца)* бываюць такія раніцы.

Наводдаль высока падымаліся сонечныя слупы і расцякаліся недзе далёка за *(вёска)*. У гэтых залатых промнях паміж небам і *(зямля)* купаліся хмаркі.

Сонечныя промні пафарбавалі іх у розныя колеры, і кожная хмарка здавалася то дзіўнай *(кветка)*, то пераліўнай *(зорка)*. Хмаркі пачыналі сваёй *(гульня)* жыццё новага дня. *Паводле Я. Коласа*

● Выпішыце назоўнікі, якія змянялі. Пастаўце націск і выдзеліце іх канчаткі. Якія канчаткі пішуцца пад націскам, а якія — не пад націскам?

**174.** Раскрыйце дужкі і запішыце. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў жаночага роду ў творным склоне (гл. табліцу на форзацы).

Ганарыцца *(Айчына)*, роднай *(старонка)*, пасядзець пад *(яблыня)*, паклапаціцца перад *(вясна)*, працаваць з *(ахвота)*, знаходзіцца глыбока пад

*(зямля)*, даражыць *(дружба)*, ісці з *(матуля)*, не страшна перад *(будучыня)*.

- Якія значэнні перадаюцца творным склонам назоўнікаў?
- Складзіце і запішыце некалькі сказаў.

**175.** Прачытайце верш. Вызначце назоўнікі жаночага роду ў творным склоне. Якія канчаткі трэба ўставіць? Растлумачце.



Мой родны Мінск,
пад небам жураўліным
жыві, квітней пад зорк.. залатой.
Ты для мяне на ўсёй зямлі — адзіны,
цябе люблю я ўсёй душ.. .

*П. Панчанка*

- Запішыце па памяці. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў жаночага роду ў творным склоне, пастаўце націск.

**176.** Запішыце тэкст, устаўляючы патрэбныя канчаткі назоўнікаў жаночага роду. Абазначце іх склон. Падкрэсліце аднародныя члены сказа.

**Беражыце ваду!**

Вад.. — вялікае багацце.

Чалавеку патрэбна добрая, чыстая вад.. . Многа вад.. расходуюць прамысловыя прадпрыемствы,

сельская гаспадарк.. . Усюды трэба ашчадна яе выкарыстоўваць.

Але запасы вад.. на Зямл.. змяншаюцца. Над вад.. навісла пагроза забруджвання. У брудной вадз.. гіне ўсё жывое.

Вад.. трэба берагчы!

***ашча́дны***

Раскажыце, чаму трэба берагчы ваду.

**177.** Устаўце канчаткі назоўнікаў і запішыце па ўзоры. Абазначце склон (гл. табліцу на форзацы).

У з о р: *мая Радзіма* (Н. с.).

Жыць для Радзім.., служыць Радзім.., люблю Радзім.., абавязак перад Радзім.., жыць на Радзім.. .

- Складзіце і запішыце тры сказы.

**178.** Запішыце тэкст, раскрываючы дужкі. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў жаночага роду, абазначце склон. Падкрэсліце аднародныя члены сказа.

### Суседкі

*(Сарока)* і *(сава)* жывуць на адной *(сасна)*. У *(сава)* ёсць дупло, а *(сарока)* зрабіла гняздо на *(вяршыня)*.

Вечарам *(сарока)* кладзецца спаць. У гэты час не спіцца толькі *(сава)*. Яна будзіць *(сарока)* сваім крыкам.

На дасвецці *(сава)* залазіць у дупло. А *(сарока)* як пачне стракатаць, што беднай *(сава)* хоць вушы затыкай.

Вось так і жывуць гэтыя суседкі. *Паводле В. Хомчанкі*

Складзіце план тэксту па абзацах і вусна перакажыце тэкст.

**179.** Прачытайце верш. Вызначце склон назоўнікаў жаночага роду.

**Родны кут**

Колькі, глянь, святла навокал —
свеціць наша вёска.
І адсвечвае здалёку
белая бярозка.
Дымкай далеч ахінулі
баравыя кроны,
кліча шэрая зязюля
да красы зялёнай.

*П. Прыходзька*

● Запішыце. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў жаночага роду.

**180.** Запішыце загадкі, устаўляючы патрэбныя канчаткі назоўнікаў. Вызначце склон гэтых назоўнікаў.



1) Латк.. на лац.., а шва не знаці.

2) Сядзіць таўстух.. пад вярб..,
сама спрачаецца з сабой.
Убачыць бусла недалёка —
дык боўць у рэчк.. з галав.. .



- Адгадайце загадкі. Запішыце адгадкі, пастаўце націск у словах.



**181.** Пастаўце назоўнікі жаночага роду ў патрэбным склоне. Запішыце прыказкі. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў, абазначце склон (гл. табліцу на форзацы).

1. Скора *(казка)* кажацца, ды не скора *(справа)* робіцца. 2. Вяселле *(справа)* не шкодзіць. 3. Не спяшайся языком, а спяшайся *(справа)*. 4. За родны край *(галава)* аддай. 5. З *(песня)* слова не выкінеш. 6. *(Птушка)* прыгожая пер'ем, а чалавек — *(навука)*.

- Растлумачце сэнс прыказак.

## ПРАВЕРЦЕ СЯБЕ

1. Што такое скланенне назоўнікаў?
2. Якія назоўнікі адносяцца да 1-га скланення?
3. Як вызначыць склон назоўнікаў?
4. Якія канчаткі маюць назоўнікі 1-га скланення ў назоўным і вінавальным склонах? У родным склоне? У давальным і месным склонах? У творным склоне? (З апорай на табліцу на форзацы.)

## Змяненне назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду (2-е скланенне)

**182.** Выпішыце назоўнікі мужчынскага і ніякага роду. Падкрэсліце аснову, выдзеліце канчаткі.

Поле, рака, восень, лес, неба, сенажаць, жыта, шчасце, сад, расліна, моладзь, справа, воблака, дрэва, трава, куст, поплаў, плынь*, сумленне, конь, край, герой, бульба, бераг, сонца, гаспадар, год, народ, надвор'е, Мінск, Прыпяць, Васіль.

- Як вызначыць род назоўнікаў?



Назоўнікі мужчынскага роду з нулявым канчаткам у назоўным склоне і назоўнікі ніякага роду адносяцца да 2-га скланення.

**183.** Разгледзьце табліцу змянення па склонах назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду. Назавіце склонавыя канчаткі.

| | | |
|---|---|---|
| Н. | хто? што? | *вучань*□, *стол*□ |
| Р. | каго? чаго? | *вучн*[*я*], *стал*[*а*] |
| Д. | каму? чаму? | *вучн*[*ю*], *стал*[*у*] |
| В. | каго? што? | *вучн*[*я*], *стол*□ |
| Т. | кім? чым? | *вучн*[*ем*], *стал*[*ом*] |
| М. | пры кім? | *пры вучн*[*ю*], |
| | у (на, аб) чым? | *на стал*[*е*] |

| | | |
|---|---|---|
| Н. | х т о? ш т о? | *сонц*[*а*], *жыцц*[*ё*] |
| Р. | к а г о? ч а г о? | *сонц*[*а*], *жыцц*[*я*] |
| Д. | к а м у? ч а м у? | *сонц*[*у*], *жыцц*[*ю*] |
| В. | к а г о? ш т о? | *сонц*[*а*], *жыцц*[*ё*] |
| Т. | к і м? ч ы м? | *сонц*[*ам*], *жыцц*[*ём*] |
| М. | п р ы к і м? | |
| | у (н а, а б) ч ы м? | *на сонц*[*ы*], *у жыцц*[*і*] |

● На які зычны можа заканчвацца аснова — цвёрды ці мяккі?

● Якія канчаткі пішуцца пасля асновы на цвёрды зычны, а якія — пасля асновы на мяккі зычны?

**184.** Праскланяйце назоўнікі *каваль, колас, поле.* Выдзеліце склонавыя канчаткі, падкрэсліце аснову (гл. табліцу на форзацы).

Н. х т о? *каваль*, ш т о? *колас*, *пол-е*
Р. …

● Складзіце і запішыце некалькі сказаў з гэтымі назоўнікамі ў розных склонах.

**185.** Запішыце і выдзеліце канчаткі назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду, абазначце склон.

Пісьмовы стол, гуляў у футбол, цвіце пад сонцам, жыве ў лесе, сеў на каня, іду насустрач ветру, глядзеў праз акно, сядзела на дрэве, сядзеў за сталом.

● Складзіце і запішыце некалькі сказаў, разбярыце іх па членах сказа.



**186.** Спішыце. Знайдзіце назоўнікі мужчынскага і ніякага роду, выдзеліце канчаткі і абазначце іх склон.

Хто працуе на сяле
шчыра і заўзята,
каб было ў нас на стале
ўсяго багата?

*А. Вольскі*

Чорны, белы хлеб ці здобу
еш, але не забывай
быць удзячным хлебаробу,
што вырошчваў ураджай.

*А. Вольскі*

- Чаму так гавораць: «Не раса родзіць, а пот»?
- Як утварылася слова *хлебароб*? Што яно абазначае?

## Назоўны і вінавальны склоны

**187.** Супастаўце назоўны і вінавальны склоны назоўнікаў. Якім членам сказа з'яўляецца назоўнік у назоўным склоне, а якім — у вінавальным?



Гэта к т о?



Будуе ш т о?

***Будаўнік*** будуе ***дом***.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | х т о?<br>ш т о? | гэта *бусел*□, *конь*□<br>гэта *сад*□, *агонь*□ | гэта *неб*[*а*], *пол*[*е*],<br>гэта *акн*[*о*],<br>*жыц*[*ё*] |
| В. | к а г о?<br>ш т о? | бачу *бусл*[*а*], *кан*[*я*]<br>бачу *сад*□, *агонь*□ | бачу *неб*[*а*], *пол*[*е*],<br>бачу *акн*[*о*],<br>*жыц*[*ё*] |

● Якія канчаткі маюць назоўнікі мужчынскага і ніякага роду ў назоўным і вінавальным склонах? Як адрозніваюцца канчаткі назоўнікаў мужчынскага роду ў вінавальным склоне?


Назоўнікі мужчынскага роду, якія адказваюць на пытанне х т о?, у вінавальным склоне маюць канчаткі -***а***, -***я***.

Назоўнікі вінавальнага склону, якія адказваюць на пытанне ш т о?, маюць такую ж форму, што і назоўнікі назоўнага склону.

**188.** Запішыце сказы, раскрываючы дужкі.

1. *(Вучань)* расказвае пра *(здарэнне)*. 2. *(Надвор'е)* сапсавалася. 3. *(Гаспадар)* ветліва сустракае *(госць)*. 4. Мой *(брат)* паехаў у *(Мінск)*. 5. *(Дзяцел)* дзяўбе *(дрэва)*. 6. *(Камбайн)* жне *(жыта)*.

● Разбярыце сказы па членах сказа. Як адрозніваць назоўнікі мужчынскага і ніякага роду ў назоўным і вінавальным склонах?

**Памятка!**

Як адрозніваць назоўны і вінавальны склоны назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду, якія адказваюць на пытанне ш т о?

1. Падставіць да назоўніка мужчынскага або ніякага роду назоўнік жаночага роду 1-га скланення з канчаткам ***-а*** або ***-я***.

2. У назоўным склоне падстаўлены назоўнік мае канчатак ***-а*** або ***-я***: пад'ехаў аўтамабіль *(машын-**а**)*, падабаецца канцэрт *(песн-**я**)*.

3. У вінавальным склоне падстаўлены назоўнік будзе мець канчатак ***-у*** або ***-ю***: водзіць аўтамабіль *(машын-**у**)*, прачытаў апавяданне *(кніг-**у**)*, слухаў канцэрт *(песн-**ю**)*.

**189.** Прачытайце. Вызначце склон назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду.

Апусцела поле, пажоўк садок. Гаспадар прыбраў ураджай. Пакуль яшчэ не выпаў снег, пара паклапаціцца пра будучы ўраджай. Трэба вывезці на поле гной, узараць. Кожнае дрэўца, кожны куст абавязкова абкапаць, абрэзаць на ім лішнія галінкі, каб на будучы год не загусцелі і далі багаты ўраджай.
*Паводле Г. Скрабіцкага*

● Спішыце. Абазначце склон назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду. Якія канчаткі ў гэтых назоўнікаў?

**190.** Вызначце склон назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду.

### Арэшына і дуб

Сойка арэхі і жалуды на зіму рыхтавала.

Сядзе яна на арэхавы куст, сарве самы спелы арэх і пад лісце схавае. Наводдаль стаяў дуб. Сядзе сойка на дуб, сарве важкі жолуд і схавае пад мох.

Тут і холад настаў. Снег зямлю ўслаў, ды так, што сойка не змагла знайсці свае прыпасы. А калі снег растаў, на тым месцы зазеляненелі маладыя дрэўцы. *Паводле З. Бяспалага*

● Выпішыце назоўнікі мужчынскага і ніякага роду і абазначце іх склон.

Узор: *арэх* — Н. с., ... .

***наво́ддаль***



**191.** Запішыце прыказкі. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду, вызначце склон.

1. Дзе трактар гудзе, там і хлеб будзе.
2. Хлеб будзе, дык і ўсё будзе.
3. Лепш хлеб з вадою, чым пірог з лебядою.
4. Салаўя песнямі не кормяць.
5. Жыццё пражыць — не поле перайсці.

● Растлумачце сэнс прыказак.

## Родны склон

**192.** На якія пытанні адказваюць назоўнікі ў родным склоне?

*падышоў*
д а  к а г о?



Хлопчык падышоў да ***кан-я.***

| | | |
|---|---|---|
| Р. | к а г о? ч а г о? | прасіць у *брат* [*а*]<br>вяртацца з *лес* [*у*]<br>сена для *кан* [*я*]<br>вядро *ячмен* [*ю*]<br>наліць з *вядр* [*а*] |

● Якія канчаткі маюць назоўнікі мужчынскага і ніякага роду ў родным склоне?



Некаторыя назоўнікі мужчынскага роду ў родным склоне маюць канчаткі ***-у(-ю)***: *розуму, шуму, ветру, дажджу, лесу, снегу, пяску, цукру, чаю* і інш.

**193.** Прачытайце прымаўкі. Вызначце склон назоўнікаў.

1. Многа лесу — не губі, мала лесу — беражы, няма лесу — пасадзі.
2. Гуляючы розуму не набудзеш.
3. З вялікага грому мала дажджу бывае.
4. Без навукі і лапця не сплацеш.
5. Кожная галава свой розум мае.

● Запішыце. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў мужчынскага роду.



**У родным склоне назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду пасля цвёрдых зычных пішацца канчатак *-а*, а пасля мяккіх — *-я*.**

**194.** Адкажыце на пытанні. Выкарыстоўвайце словы для даведкі.

1. У каго моцная дзюба?
2. У каго вушы доўгія?
3. Для чаго патрэбна фізкультура?

Словы для даведкі: *заяц, здароўе, дзяцел.*

● Запішыце адказы на пытанні. Абазначце склон назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду, выдзеліце канчаткі.

**Памятка!**

У назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду, якія адказваюць на пытанне к а г о?, канчаткі ў родным і вінавальным склонах супадаюць: спытаў у к а г о? *у настаўнік-**а*** (Р. с.) — сустрэў к а г о? *настаўнік-**а*** (В. с.).

Для вызначэння склону такіх назоўнікаў трэба:

1. Падставіць назоўнік жаночага роду з канчаткам *-**а*** або *-**я*** (1-га скланення).

2. Назоўнікі жаночага роду ў родным склоне могуць мець канчатак *-**ы*** або *-**і***: *партрэт геро-**я** (бабул-**і**)* — Р. с.

3. Назоўнікі жаночага роду ў вінавальным склоне могуць мець канчатак *-**у*** або *-**ю***: *любіць брат-**а** (сястр-**у**)* — В. с.

**195.** Запішыце сказы. Вызначце склон назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду, падстаўляючы ў дужках назоўнікі жаночага роду.

1. Паслаў пан свайго мужыка (...) з пісьмом да другога пана (...). *(Я. Колас)* 2. Выбраў воўк самага большага барана (...), схапіў яго і кажа: «Баран, баран! Я цябе з'ем». *(Я. Колас)* 3. А Мароз Чырвоны нос дагнаў селяніна (...) і давай яго марозіць. *(Я. Колас)* 4. Вярнуўся з палявання коцік, бачыць — няма пеўніка (...). 5. Я ад дзеда (...) уцёк, я ад бабы ўцёк, я ад зайца (...) уцёк, я ад воўка (...) уцёк, а ад цябе, лісіца, лёгка ўцячы.

- Успомніце, з якіх казак гэтыя сказы?



**196.** Запішыце тэкст, раскрываючы дужкі. Вызначце склон назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду. Выдзеліце канчаткі (гл. табліцу на форзацы).

### Шлях да сонца

Янка заўсёды любіцьназіраць за сонцам ад *(усход)* да самага *(захад)*.

Сярод *(лета)* яно ўзыходзіць вельмі рана з-за *(ўзгорак)* і заходзіць позна.

Узімку яно ахоплівае зусім малы кавалачак *(неба)*. А ўвесну сонца зноў падымаецца ўсё вышэй у блакіт *(неба)*. Чаго тут толькі не ўбачыш! Янка наглядзецца не можа. *Паводле З. Бядулі*

- Раскажыце пра свае назіранні за сонцам.

## Давальны склон

**197.** На якія пытанні адказваюць назоўнікі давальнага склону?



*дае* к а м у?

Настаўніца дае ***вучн-ю*** кнігу.

| | | |
|---|---|---|
| Д. | к а м у?<br>ч а м у? | даць *брат*[*у*]<br>радавацца цёпламу *дн*[*ю*] |

- Якія канчаткі назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду пішуцца ў давальным склоне пасля цвёрдых і мяккіх зычных?



**У давальным склоне назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду пасля цвёрдых зычных пішацца канчатак -*у*, пасля мяккіх — канчатак -*ю*.**

**198.** Пастаўце назоўнікі мужчынскага і ніякага роду ў давальным склоне, выдзеліце канчаткі (гл. табліцу на форзацы).

Даручыў *(таварыш)*, цёпла ў бярлозе *(мядзведзь)*, апладзіравалі *(артыст)*, радавацца *(жыццё)*, пайшоў насустрач *(вецер)*, расказаў *(бацька)*, вярнуўся к *(абед)*.

● Складзіце і запішыце некалькі сказаў, разбярыце іх па членах сказа.

**199.** Запішыце верш па памяці. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду.

**Мінску**

Слава гораду-герою,
партызану і салдату,
яго велічнаму строю,
яго высненаму святу!

*Е. Лось*

● Вызначце склон назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду.

● Які канчатак пішацца пасля асновы на цвёрды зычны, а які канчатак — пасля асновы на мяккі?



**200.** Запішыце прыказкі, дапісваючы канчаткі назоўнікаў давальнага склону (гл. табліцу на форзацы).

1. Добраму чалавек.. ўсюды добра. 2. Святочнаму дн.. — святочны настрой. 3. Шчыраму сэрц.. і чужы боль баліць. 4. Не трэба салавейк.. залатая клетка, а трэба салавейк.. зялёная ветка. 5. Не заўсёды вер свайму вок.., а вер розум.. . 6. Баязліўц.. адзін пень за тры ваўкі здаецца. 7. Зайц.. і жабін скок страшны. 8. Вялікаму карабл.. вялікае плаванне.

## Творны склон

**201.** На якія пытанні адказваюць назоўнікі ў творным склоне?

*забівае* ч ы м?

Хлопчык забівае цвік ***малатк-ом.***



| | | |
|---|---|---|
| Т. | к і м?<br>ч ы м? | хлеб з *малак* *ом*<br>ехаць *аўтобус* *ам*<br>схавацца пад *лісц* *ем*, пад *галл* *ём* |

● Якія канчаткі маюць назоўнікі мужчынскага і ніякага роду ў творным склоне?

**202.** Запішыце сказы. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду ў творным склоне.

1. Луг зялёны жыццём дыша — конікі трашчаць. *(Я. Колас)* 2. Мы ідзём пад сонцам ясным маладым паходам. *(Я. Купала)* 3. Ходзіць дзед **белабароды** полем, лесам, пералескам, засцілае рэчкі лёдам, брыльянцістым снежным блескам. *(Я. Колас)* 4. Мяккі снег лятае пухам, і канца яму няма, і нясе сярдзітым духам, дзікім сіверам* зіма. *(Я. Колас)* 5. Снег такі халодны, аж пячэ агнём. *(І. Муравейка)* 6. Чарадзейны верасень заквітнеўся верасам. *(А. Дзеружынскі)*

- Падкрэсліце аснову назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду ў творным склоне. На які зычны яна заканчваецца — цвёрды ці мяккі?
- Як утварылася слова *белабароды*?

**203.** Запішыце прыказкі, раскрываючы дужкі. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду ў творным склоне, пастаўце націск (гл. табліцу на форзацы).

1. Не той сябар, хто *(мёд)* мажа, а той, хто праўду кажа. 2. Адным *(конь)* усё поле не аб'едзеш. 3. Адным *(мах)* дрэва не зваліш. 4. Сякеры *(язык)* не навострыш. 5. Чужым *(розум)* не пражывеш.

- Якія канчаткі назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду ў творным склоне пішуцца пад націскам, а якія — не пад націскам?


Назоўнікі мужчынскага і ніякага роду ў творным склоне пад націскам маюць канчаткі ***-ом(-ём)***, а не пад націскам — ***-ам(-ем)***.

**204.** Запішыце ўрывак з беларускай народнай казкі «Сіняя світа налева пашыта». Устаўце канчаткі назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду ў творным склоне.

Перад цар.. Сіняя світа* стаяў добрым малайц.. . Па двары пабег чорным собал.. . Пад вароты лез белым гарнаста.. . Па полі пабег шэрым зайц.. . Забег у трыдзясятае царства. Сеў пад дуб.., зашыўся пад лісц.. і сядзіць там. Прыляцела птушка Нагай, пачула нюх.., што пад лісц.. чалавек сядзіць, ды пытаецца:

— Хто тут?

— Я, — кажа Сіняя світа. — Схавай мяне, добрая птушка.

 Успомніце працяг казкі і раскажыце яе.


**205.** Запішыце тэкст, раскрываючы дужкі. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду, абазначце склон (гл. табліцу на форзацы).

### Марозным днём

На лясной паляне стаіць кармушка. Каля яе ласуецца духмяным *(сена)* лось. За *(куст)* стаяць

дзве казулі. Ім таксама хацелася б паскубці сена, але яны баяцца станавіцца перад *(лось)*.

Непадалёку штосьці хруснула. Хтосьці набліжаўся. Казуль быццам *(вецер)* здзьмухнула. Лось таксама не захацеў сустракацца з *(драпежнік)*. Подбегам пусціўся далей ад небяспекі. *Паводле А. Давыдава*

## Месны склон

**206.** На якія пытанні адказваюць назоўнікі ў месным склоне? На што ўказвае месны склон назоўнікаў?



*едуць* н а ч ы м?

Дзеці едуць на ***трамва-і***.

| | | |
|---|---|---|
| М. | п р ы к і м?<br>н а ч ы м? | ехаць на *аўтобус* [*е*]<br>працаваць на *трактар* [*ы*]<br>ісці па *пол* [*і*]<br>сумаваць па *таварыш* [*у*]<br>песня аб *кавал* [*ю*] |

**207.** Пастаўце назоўнікі мужчынскага і ніякага роду ў месным склоне і запішыце. Выдзеліце канчаткі.

Ехаў на *(цягнік, аўтобус, аўтамабіль, конь)*; быў у *(лес, горад, музей)*; створаны пры *(тэатр,*

*клуб, лясніцтва)*; ішоў па *(пясок, тратуар, мост)*; працаваў на *(завод, агарод)*.

- Якія канчаткі пішуцца ў месным склоне назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду?
- Складзіце і запішыце 2 сказы. Разбярыце іх па членах сказа.
- Растлумачце напісанне ***д—дз, т—ц*** у словах.



У месным склоне назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду пасля мяккіх зычных пішуцца канчаткі ***-е, -і, -ю***, а пасля цвёрдых — ***-э, -ы, -у***.

**208.** Запішыце, раскрываючы дужкі. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду, абазначце склон (гл. табліцу на форзацы).

1. На *(узлесак)* стаялі тоўстыя старыя дубы. 2. На шырокім *(поплаў)*, недалёка ад дубоў, пасвіліся статкі. 3. Сівыя хмары неспакойна забегалі па *(неба)*. 4. У *(лес)* спяваюць дразды, лясныя жаваранкі. 5. Па ***(балота)*** важна праходжваецца бусел. 6. Спакойна кацілася рака і блішчала на *(месяц)*. *Я. Колас*

- Падкрэсліце аднародныя члены сказа.
- Растлумачце напісанне ***т—ц*** у выдзеленым слове.

**209.** Разгледзьце малюнак. Што пераблытаў мастак? Адкажыце на пытанні.

1. Дзе жыве вавёрка? 2. Дзе сядзяць птушаняты? 3. Дзе зімуюць пералётныя птушкі? 4. Дзе водзяцца акуні? 5. Дзе растуць яблыкі, грушы, слівы? 6. Дзе растуць памідоры, агуркі, морква? 7. Дзе пасуцца коні, каровы, авечкі?



Словы для даведкі: *дупло, гняздо, агарод, луг, сад, вырай, возера.*

● Запішыце адказы на пытанні. Вызначце склон назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду, выдзеліце канчаткі.

**210.** Запішыце верш па памяці, устаўляючы патрэбныя канчаткі назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду.

Андрэйка, мой братка,
пытае, дзе татка.
А татка на мор..,
на сінім прастор..,
у далёкім паходз..
на параходз.. .
*Е. Лось*



**211.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Вызначце склон назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду, выдзеліце канчаткі (гл. табліцу на форзацы).

### Першы снег

Ноччу выпаў першы *(снег)*. У белае *(футра)* апрануўся *(ельнік)*. *(Снег)* наліп на магутным *(дуб)*, павіс на *(куст)* арэшніку. Скрозь *(снег)* прабіваецца адзінокі пучок верасу.

У зімовым *(лес)* таленавіты *(мастак)* пачаў крэсліць белым *(колер)* свой *(пейзаж)**. *Паводле Я. Пархуты*

## ПРАВЕРЦЕ СЯБЕ

1. Якія назоўнікі адносяцца да 2-га скланення?
2. Як адрозніць назоўнікі ў назоўным, родным і вінавальным склонах?

# Змяненне назоўнікаў жаночага роду з нулявым канчаткам (3-е скланенне)

## Назоўны і вінавальны склоны

**212.** Выпішыце назоўнікі жаночага роду з нулявым канчаткам.

Дзень, ноч, печ, сталь, столь, кроў, дом, далеч, соль, Беларусь, Прыпяць, медаль, радасць, прыгажосць, шчасце, жыццё, лось, лес, шыр, Нарач, сцяна, крэпасць, моладзь, мыш, рысь, рыс, далонь, памяць, восень.

**213.** Параўнайце назоўны і вінавальны склоны назоўнікаў жаночага роду з нулявым канчаткам. Якую ролю ў сказе выконваюць гэтыя формы?



*гэта* х т о?



*гэта* ш т о?



*схавалася* п а д ш т о?

***Мыш*** схавалася пад ***печ.***

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | х т о?<br>ш т о? | гэта *мыш*□<br>гэта *печ*□ | дзейнік |
| В. | н а к а г о?<br>п а д ш т о? | накінуўся на *мыш*□<br>схавалася пад *печ*□ | дададны член сказа |

**214.** Запішыце сказы. Абазначце склон назоўнікаў жаночага роду 3-га скланення.

1. Беларусь ганарыцца сваімі працавітымі людзьмі. Пра родную Беларусь людзі спяваюць свае песні.

2. Сціпласць упрыгожвае чалавека. Людзі паважаюць яго за сціпласць.

3. Прыгажосць чалавека праяўляецца ў яго добразычлівых адносінах да людзей. У родным кутку я адчуваю прыгажосць жыцця.

- Якую ролю ў сказе выконваюць назоўнікі жаночага роду ў назоўным і вінавальным склонах?
- Растлумачце значэнне слова *добразычлівы*.

**215.** Запішыце сказы. Абазначце склон назоўнікаў жаночага роду 3-га скланення.

**су́вязь**

1. Паплылі ўжо дні ў залатую восень. *(П. Панчанка)* 2. Лужынкі сцягнуліся за ноч лядком. *(Я. Колас)* 3. Навокал смуглела густа-зялёная даль. *(З. Бядуля)* 4. Міхаська адзін сядзіць ля акна і нецярпліва ўглядаецца ў даль. *(А. Якімовіч)* 5. У акно пазірае белая месячная ноч. *(І. Мележ)* 6. Паміж Беларуссю і Расіяй даўно існуе добрасуседская сувязь.

- Разбярыце па членах сказа. Якую ролю ў сказе выконваюць назоўнікі жаночага роду?

**216.** Прачытайце верш.

Стынуць у полі слупы,
дрэмле аціхлая просінь.
Нехта — у лес па грыбы,
я ж у яго — па восень.
*Л. Яўменаў*

- Запішыце верш па памяці.
- Вызначце склон назоўнікаў жаночага роду з нулявым канчаткам.



**217.** Спішыце тэкст.

Стасік лёг рана. Ён моцна спаў. Усю ноч мяла мяцеліца.

Раніцай хлопчык расплюшчыў вочы і ўзрадаваўся. У марозныя вокны глядзела сонейка. Ва ўсім целе адчувалася лёгкасць, бадзёрасць.

Мама напякла ў печы аладак. Радасць перапоўніла сэрца Стасіка, калі ён успомніў, што сёння яго дзень нараджэння. *Паводле Д. Купрыянава*

- Абазначце склон назоўнікаў жаночага роду з нулявым канчаткам.
- Падкрэсліце аднародныя члены сказа.

## Родны, давальны і месны склоны

**218.** На якія пытанні адказваюць назоўнікі ў родным, давальным і месным склонах?







*ляжаць* к а л я ч а г о?

*прапануе* к а м у?

*спіць* н а ч ы м?

● Разгледзьце табліцу. Назавіце канчаткі назоўнікаў у родным, давальным, месным склонах.

| | | |
|---|---|---|
| Р. | к а г о?<br>ч а г о? | *для мыш ы, каля печ ы*<br>*без сол і* |
| Д. | к а м у?<br>ч а м у? | *мыш ы, печ ы*<br>*сол і* |
| М. | а б к і м?<br>н а ч ы м? | *аб мыш ы, на печ ы*<br>*у сол і* |

● Складзіце сказы з назоўнікамі 3-га скланення. Разбярыце па членах сказа. Якую ролю ў сказе выконваюць назоўнікі 3-га скланення ў родным, давальным і месным склонах?

● Якія канчаткі маюць назоўнікі жаночага роду ў родным, давальным і месным склонах?

**219.** Пастаўце назоўнікі жаночага роду ў патрэбным склоне і запішыце. Выдзеліце канчаткі, абазначце склон (гл. табліцу на форзацы).

Дажыць да *(старасць)*, вырабляюць з *(медзь)*, жыве ў *(глуш)*, знаходзіцца ў *(Беларусь)*, гараць у *(печ)*, сядзеў да *(ноч)*, былі ў *(Брэсцкая крэпасць)*, ускрыкнуў ад *(радасць)*, вучыць *(ветлівасць)*.

- Які канчатак пішацца пасля мяккіх зычных, а які — пасля цвёрдых?
- Складзіце і запішыце 2—3 сказы, разбярыце іх па членах сказа.



У родным, давальным і месным склонах назоўнікі жаночага роду маюць аднолькавыя канчаткі.

Канчатак ***-і*** пішацца пасля мяккіх зычных, канчатак ***-ы*** — пасля цвёрдых зычных.

**220.** Запішыце сказы, раскрываючы дужкі. Выдзеліце канчаткі, абазначце склон назоўнікаў жаночага роду.

1. Добра ўлетку пасядзець на беразе *(Прыпяць)*. 2. Месячык зазірнуў у акно сярод *(ноч)*. 3. *(Рунь)* пад снегам не страшны мароз. 4. Кнігі вучаць *(шчырасць, справядлівасць, адказнасць, чуласць)*. 5. У ціхай *(завадзь)* жывуць дзікія гусі і качкі. 6. Пачуццё *(вернасць)* родным мясцінам застаецца ў чалавека назаўсёды.

**221.** Адкажыце на пытанні і запішыце поўныя адказы. Вызначце склон назоўнікаў 3-га скланення, выдзеліце канчаткі.

1. Адкуль да нас прылятаюць снегіры і крыжадзюбы? 2. У якой вобласці ты жывеш? 3. Дзе гняздуецца чорны бусел? 4. Для чаго не бывае перашкод? 5. Што дапамагае набыць веды?

Словы для даведкі: *глуш, поўнач, кніга, смеласць, Брэсцкая (або Мінская, Віцебская, Магілёўская, Гродзенская, Гомельская).*



**222.** Запішыце прыказкі. Устаўце канчаткі назоўнікаў жаночага роду. Абазначце склон.

1. Чалавек без сябра — што ежа без сол.. .

2. Каб пазнаць чалавека, трэба з ім пуд сол.. з'есці.

3. Адна галавешка і ў печ.. не гарыць, а дзве — і ў полі не гаснуць.

4. Азбука — к мудрасц.. крок.

5. Дзе няма ведаў, там не будзе смеласц.. .

● Падбярыце словы з супрацьлеглым значэннем: *сябар — ..., смеласць — ... .*

## Творны склон

**223.** На якія пытанні адказваюць назоўнікі ў творным склоне?



*сядзіць* п а д ч ы м?



*пасыпае* ч ы м?

● Разгледзьце табліцу. Назавіце канчаткі назоўнікаў 3-га скланення ў творным склоне.

| | | |
|---|---|---|
| Т. | к і м?<br>ч ы м? | *мыш[у]*<br>*солл[ю]* |

● Складзіце сказы з назоўнікамі 3-га скланення ў творным склоне. Разбярыце па членах сказа. Якую ролю ў сказе выконваюць назоўнікі 3-га скланення ў творным склоне?

**224.** Змяніце назоўнікі па пытаннях і запішыце. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў.

Сустракаў з ч ы м? з *(радасць)*, адносіцца з ч ы м? з *(любоў)*, вабіць ч ы м? *(прыгажосць)*, ласуецца

ч ы м? *(косць)*, падзьмула ч ы м? *(свежасць)*, сустракаў з ч ы м? з *(весялосць)*.

- Падкрэсліце асновы назоўнікаў у творным склоне.


**У творным склоне назоўнікаў жаночага роду 3-га скланення пасля цвёрдых зычных пішацца канчатак *-у*. Канчатак *-ю* пішацца пасля мяккіх зычных: *радасц-ю*, *моладдз-ю*.**

**225.** Прачытайце і запішыце. Вызначце склон назоўнікаў. Падкрэсліце падоўжаныя зычныя.

| х т о? ш т о? | к і м? ч ы м? |
|---|---|
| мыш | мышшу |
| ноч | ноччу |
| ціш | цішшу |
| соль | соллю |
| сенажаць | сенажаццю |


**У творным склоне можа быць падаўжэнне апошняга зычнага асновы, калі зычны стаіць пасля галоснага: *ноччу*, *рунню*, *цішшу*.**

**226.** Прачытайце. Назоўнікі, што ў дужках, пастаўце ў творным склоне.

1. Марознай зорнай *(ноч)* па шашы то прасунуцца сані, то зноў прамчыцца машына. *(Я. Брыль)* 2. Вочы хлопчыка зноў засвяціліся *(радасць)*. *(Я. Маўр)* 3. І ваюе сонца з цемраю і холадам, як ваюе і чалавек са *(злосць і несправядлівасць)*. *(Я. Колас)* 4. Дзеці з *(нецярплівасць)* чакалі прыходу зімы. 5. Месячык узышоў над *(Нарач)*. 6. З возера пацягнула *(вільгаць)*. 7. За снежнай *(даль)* цямнела паласа старога лесу.

● Запішыце сказы. Выдзеліце канчаткі творнага склону назоўнікаў 3-га скланення (гл. табліцу на форзацы). Падкрэсліце падоўжаныя зычныя.

**227.** Прачытайце верш. Пастаўце слова ў дужках у патрэбную форму.

Мы засеем *(радасць)* планету,
мы ўсмешкамі азорым шыр,
нам належыць будучыня свету,
і таму для нас патрэбен мір!
*П. Макаль*

● Спішыце і выдзеліце канчаткі назоўнікаў жаночага роду. Вызначце іх скланенне. Абазначце склон.
● Растлумачце сэнс першага радка верша.



**228.** Запішыце тэкст, раскрываючы дужкі. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў 3-га скланення (гл. табліцу на форзацы).

### Восень над Прыпяццю

Восень неадступна панавала над усёй *(мясцовасць)*. Яна ўжо заслала залацістым абрусам сенажаці, пасерабрыла шаты прыдарожных бароў, а паветра напаіла *(празрыстасць і свежасць)*.

Над *(Прыпяць)* сінее лес. Адтуль нясе водарам хвоі, *(прэласць)* зямлі, *(вільгаць)* балота. Над воднай *(гладзь)* плыве лёгкі туман. *Паводле І. Навуменкі*

● Падкрэсліце аднародныя члены сказа. Як яны звязаны паміж сабой?

**ПРАВЕРЦЕ СЯБЕ**

1. Якія назоўнікі адносяцца да 3-га скланення?
2. Якія канчаткі маюць назоўнікі 3-га скланення ў назоўным і вінавальным склонах?
3. Якія канчаткі маюць назоўнікі 3-га скланення ў родным, давальным і месным склонах?
4. Якія канчаткі маюць назоўнікі 3-га скланення ў творным склоне?

# ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК

**Абра́за** — зняважлівы ўчынак, зняважлівае слова.

**Абша́р** — вялікі ўчастак зямлі, шырокі прастор.

**Акані́ца** — адна з дзвюх дашчатых або жалезных створак, якімі закрываюцца вокны знадворку.

**Астрано́м** — чалавек, які займаецца навукай аб нябесных целах.

**Ашча́дна** — беражліва, разважліва.

**Багу́н** — лясная травяністая расліна, якая мае своеасаблівы моцны пах.

**Бо́ндар** — майстар па вырабе бочак, дзежак.

**Вы́рай** — 1) цёплыя краіны, у якія адлятаюць птушкі; 2) чарада пералётных птушак.

**Ганча́р** — майстар, які вырабляе з гліны посуд і іншыя рэчы.

**Гарба́р** — спецыяліст, які вырабляе скуры.

**Гаць** — насціл з бярвён ці галля для праезду цераз балота.

**Гео́лаг** — спецыяліст, які шукае карысныя выкапні.

**Гіва́л** — птушка.

**Залата́р** — майстар па вырабе ўпрыгожванняў з золата.

**Імша́рыны, імша́ры** — мохавыя балоты.

**Калашэ́нне** — паяўленне каласкоў.

**Карэ́ц** — невялікая пасудзіна з бярозавай кары для піцця вады, квасу.

**Манта́жнік** — рабочы, які займаецца зборкай абсталявання з гатовых частак.

**Муля́р** — рабочы-будаўнік, які ўзводзіць будынкі з цэглы.

**Па́вець** — страха на слупах, пад якой трымаюць розныя сельскагаспадарчыя прылады, дровы і інш.

**Па́лкасць** — цяпло, гарачыня.

**Пейза́ж** — 1) агульны выгляд якой-небудзь мясцовасці, краявід; 2) малюнак краявіду.

**Плынь** — рух вады ў рэках.

**Про́сінь** — сіні колер.

**Прыўда́лая** — вельмі добрая, цудоўная.

**Сі́вер** — халодны паўночны вецер.

**Сілкава́цца** — есці, харчавацца.

**Сінтэты́чныя вало́кны** — штучны матэрыял, з якога вырабляюць ніткі, тканіну.

**Сі́няя сві́та** — казачны герой.

**Скарб** — што-небудзь дарагое; каштоўнасці.

**Сыраві́на** — матэрыял, з якога вырабляюць прадукцыю.

**Транспарцёр** — механізм для перамяшчэння грузаў.

**Тэлеско́п** — прыбор для назірання за зоркамі.

**Чарада́** — гурт, статак.

**Ша́ты** — покрыва з лісця.

**Экспана́т** — прадмет, які выстаўляецца на паказ.

**Юнна́ты** — юныя натуралісты, дзеці, якія займаюцца вывучэннем прыроды.

# Змест

(Назва і нумар установы агульнай сярэдняй адукацыі)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан падручніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне падручнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |

Вучэбнае выданне

**Паўлоўскі** Іван Іванавіч

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Падручнік для 4 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 1

2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *К. І. Іванова*
Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка*
Мастакі *Н. А. Хромава, І. А. Усенка*
Камп'ютарная вёрстка *Ю. М. Галавейкі*
Карэктары *К. В. Шобік, Н. І. Пархун*

Падпісана ў друк 11.03.2013. Фармат 70×90 1/16. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 10,53. Ул.-выд. арк. 3,9 + 0,47 форз.
Тыраж 20 000 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0494469
ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа». ЛП №02330/0150496
ад 11.03.2009. Вул. Чырвоная, 23, 220600, г. Мінск